№№173–174
(3712–3713)

6 лістапада 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СІТУАЦЫЯ

## «ГРАНІТ»: праўда Алега Стахаевіча і Эдуарда Гаўрылковіча

*На прадпрыемстве "Граніт" пасля таго, як на пачатку года рабочыя пачалі стыхійна выходзіць з афіцыйнага прафсаюза, патрабуючы павышэння заробкаў, сітуацыя змянілася. (Праўда, гэта каштавала некалькім актывістам пазбаўлення працоўнага месца.) У маі, чэрвені і ліпені замест ранейшых 3—3,7 мільёна рублёў высокакваліфікаваныя, старанныя рабочыя, якія працуюць у кар'еры, сталі атрымліваць амаль у тры разы больш — ад 8 да 10,5 мільёна. Але потым некаторыя СМІ паведамілі, што ў жніўні заробкі зноў знізіліся да 7 і нават да 5 мільёнаў рублёў.*

Алег Стахаевіч, былы лідар незалежнай прафсаюзнай арганізацыі, якую спрабавалі зарэгістраваць на прадпрыемстве рабочыя, сцвярджае, што гэта адпавядае рэчаіснасці, і тлумачыць такую сітуацыю банальнай прычынай.

— *Адміністрацыя паглядзела, што ніякай пагрозы ўжо не існуе, няма той сілы, якая гнала пратэстную хвалю, і вырашыла пайсці на зніжэнне заробкаў. Тыдзень таму адміністрацыя прадпрыемства паведаміла, што за выхад на працу ў святочны дзень 7 лістапада заплацяць толькі ў два разы болей. Натуральна, людзі былі незадаволеныя, усе абураліся. Заўсёды раней за работу ў святы плацілі ў чатыры разы болей. На "Беларуськаліі", напрыклад, у такіх выпадках налічваюць у тры разы болей, і гэта абсалютна законна, адпавядае калектыўнай дамове. Дарэчы, у Мікашэвічах на прыпынках грамадскага транспарту з'явіліся ўлёткі аб тым, што адміністрацыя "Граніта" зноў наступае на заробкі рабочых. І што вы думаеце? На гэтым тыдні з'явіўся загад аб тым, што заплацяць у чатыры разы больш. Так што тая работа, якая была праведзена на прадпрыемстве, усё ж дала свае вынікі — і народ шмат чаго зразумеў, і адміністрацыя ведае, што цярпенню можа прыйсці канец.*

**— Тыя людзі, якіх звольнілі з прадпрыемства, знайшлі сабе новую працу?**

— *Усе спробы аднавіцца на "Граніце" плёну не далі. Мікола Карышаў, Віталь Пашачка ды іншыя выязджаюць на заробкі то ў Расію, то ў Польшчу. Жонка Анатоля Літвінкі не змагла ўладкавацца днямі на новую работу — сабрала ўсе дакументы, прайшла медкамісію, і ў апошні момант ёй сказалі, што на працу ўзяць не могуць. Людміла сказала, што цяпер яе персона на кантролі. Гэта няцяжка зрабіць — гарадок наш невялікі. Я сам пераехаў у Салігорск. Думаю, што там уладкавацца на працу будзе лягчэй. Рабочыя рукі паўсюль патрэбны.*

Алег Стахаевіч выйграў судовую справу супраць прадпрыемства, патрабуючы матэрыяльнай кампенсацыі за той час, што не працаваў, калі судзіўся за права аднавіцца на працы. Ён паведаміў, што дырэктар "Граніта" Эдуард Гаўрылковіч не пагадзіўся з судовым рашэннем і нават асабіста падпісаў касацыйную скаргу ў Брэсцкі абласны суд. Аднак Алег перакананы, што грошы ён атрымае. Тым больш што для яго гэта пытанне прынцыпу, а не памеру кампенсацыі.

Дырэктар прадпрыемства "Граніт" Эдуард Гаўрылковіч наконт заробкаў даў сваё тлумачэнне "Народнай Волі":

— *У жніўні сапраўды заробак быў меншы, чым у ліпені, але гэта звязана з тым, што не быў выкананы план. У верасні некаторыя атрымалі па 10 і нават крыху больш мільёнаў рублёў. У нас заробкі залежаць ад выканання плана і ад прадукцыйнасці працы. Будуць добра працаваць — будуць добра зарабляць.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

НАДВОР'Е

## *Дажджы да канца тыдня*

У выхадныя надвор'е будзе менш дажджлівае, але больш халоднае.

— У аўторак на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, ноччу па ўсходзе — моцныя дажджы. Днём магчыма ўзмацненне ветру, парывы якога дасягнуць 15—20 м/с. На працягу сутак тэмпература паветра будзе вагацца ад 3-х да 8 градусаў цяпла, на паўднёвым усходзе — да плюс 10. 7—8 лістапада на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, на поўначы Віцебскай вобласці магчымы мокры снег, слабы галалёд. Месцамі магчыма ўзмацненне ветру да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ўначы складзе ад 0 да плюс 5, днём — ад 3 да 8 градусаў цяпла. 9 лістапада, у пятніцу, на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, тэмпература паветра ўначы — ад 1 да 7 градусаў цяпла, днём — плюс 3—8 градусаў, — паведамілі interfax.by у Белгідраметэацэнтры.

К выхадным надвор'е зменіцца. На Беларусь прыйдзе скандынаўскі антыцыклон. Дажджы на большай частцы спыняцца, аднак пры гэтым крыху панізіцца тэмпература. 10 лістапада ў асобных раёнах магчымы кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай месцамі чакаецца туман, слабы галалёд. Тэмпература паветра ўначы — ад 0 да +5 градусаў, пры праясненнях — да мінус 2, днём чакаецца 1—6 градусаў цяпла. У нядзелю 11 лістапада ападкаў не чакаецца. Ноччу і раніцай у асобных раёнах — туман, слабы галалёд. Уначы тэмпература паветра складзе ад мінус 3 да плюс 2 градусаў, пры праясненнях — да мінус 6. Днём паветра прагрэецца да 5 градусаў, а на поўдні краіны — да 7 градусаў цяпла.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Андрэй САННІКАЎ:*

## «Тое, што я абяцаў людзям, якія мяне падтрымлівалі, я выканаў»

*Як вядома, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года, каардынатар грамадскай праграмы "Еўрапейская Беларусь"* ***Андрэй Саннікаў*** *у мінулым месяцы атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі.*

*У Беларусі засталася жонка палітыка Ірына Халіп, асуджаная да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду, і пяцігадовы сын Данік. Пра матывы і прычыны ад'езду з краіны, пра свае бліжэйшыя планы і пра ацэнку сітуацыі ў Беларусі Андрэй Саннікаў гаворыць з Сяргеем Шупам.*



**— Калі прыйшлі першыя паведамленні, што вы ў Лондане, у мас-медыя ўзнікла няяснасць: вы толькі папрасілі палітычнага прытулку ў Вялікабрытаніі ці ўжо яго атрымалі?**

— Прытулак я атрымаў.

**— Калі і як вы адчулі, што трэба з'язджаць з Беларусі?**

— Калі кожны дзень сутыкаўся з татальным сачэннем з боку спецслужбаў: праслухоўваліся кватэра, тэлефоны, камп'ютар, нават скайп. Трэба было вырашаць: ці заставацца і проста займацца асабістым жыццём, ці з'язджаць, каб працаваць.

**— У сваім першым лонданскім інтэрв'ю "Хартыі" вы адзначылі, што ваша рашэнне дапаможа рэальнаму вызваленню вашых "жонкі і сына, якія знаходзяцца ў закладніках у рэжыму Лукашэнкі". Чым ваш выезд можа ім дапамагчы?**

— У Беларусі мы засталіся сам-насам з абставінамі. Чакаць нейкай рэальнай дапамогі не было ад каго. Было відавочна, што ціск і правакацыі будуць прымаць рэгулярны характар. Лічу, што мой выезд дапаможа, бо цяпер я пад абаронай уплывовай еўрапейскай дзяржавы, а гэта значыць, што і мая сям'я пад абаронай. Бо ёсць міжнародныя абавязкі, якія тычацца сем'яў тых людзей, што апынуліся за мяжой і атрымалі там прытулак.

У Мінску складана дапамагчы. Калі робіш рэальныя справы, узнікае яшчэ большая пагроза, нават фізічная, для сям'і.

Сёння я на волі і пачаў ужо сустракацца з палітыкамі і грамадскімі дзеячамі. Я ўсім кажу пра гэтую сітуацыю, прашу, каб аб маёй сям'і згадвалі паўсюль і каб выконваліся тыя абавязацельствы, якія ёсць у Беларусі, каб выконваліся нават тыя абяцанні, што былі дадзены не проста так, а перад тэлекамерамі Бі-Бі-Сі.

**— Але далей за абяцанні кіраўніка Беларусі ў інтэрв'ю брытанскім медыя справа так дагэтуль і не пайшла?**

— Не пайшла. Я не паведамляў, што атрымаў прытулак, бо чакаў, што вырашыцца справа Ірыны. Я не верыў гэтым абяцанням, але лічыў, што было б нахабствам так адкрыта хлусіць аб магчымым зняцці ўсіх абмежаванняў.

**— А калі вы атрымалі прытулак?**

— Напрыканцы кастрычніка.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

КЛЮЧАВОЕ ПЫТАННЕ

## *Ці ёсць у Беларусі шанец калі-небудзь увайсці ў еўрапейскую сям'ю?*



Ключавое пытанне для кожнага сумленнага беларуса.

А вось які адказ даў на яго вядомы польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч **Уладзімір ЦІМАШЭВІЧ:**

— *Па-першае, Беларусь апрыёры еўрапейская дзяржава. Па-другое, я глыбока перакананы, што ўваходжанне ў ЕС паслужыла б інтарэсам беларускай нацыі, беларускага грамадства, гэта пытанне шанцаў развіцця, эканамічнай мадэрнізацыі, функцыянавання дзяржавы. Гэта адкрыццё Еўропы, змена ўмоў жыцця, працы і г.д. Усе людзі маюць права свабоднага выбару месца, дзе яны хочуць жыць і працаваць.*

*Гэта натуральнае права ў Еўропе прызнаецца стагоддзямі. Людзі з Беларусі 300—400 гадоў таму выязджалі на вучобу ў Балонью, Падую, Парыж. Яны працавалі на карысць сваёй радзімы і на карысць Еўропы. І Еўропа з гэтага пункту гледжання была супольнасцю, культурнай супольнасцю. Найлепшыя помнікі культуры ў Польшчы былі зроблены, напрыклад, рукамі Віта Ствоша — немца, які пасяліўся ў Кракаве. І можна ўзгадаць тысячы такіх прыкладаў. Пазнейшае развіццё падзей прывяло да закрыцця нацыянальных дзяржаў. Мы перажылі халодную вайну. Тыя з нас, хто нарадзіўся раней, жылі дзесяцігоддзямі ў закрытай прасторы.*

*Яшчэ некалькі дзесяткаў гадоў таму, калі я хацеў падарожнічаць па Еўропе, то быў вымушаны на працягу месяцаў вырашаць розныя фармальнасці. А сёння нават магу і не заўважыць, што перасек мяжу іншай краіны. І я паўсюль адчуваю сябе, як дома. Ці мае гэта значэнне? Гэта такія простыя, дробныя справы, але вельмі істотныя. І беларусы павінны гэта адчуць. Гэта іх права, бо яны таксама еўрапейцы.*

### ДАСЬЕ

Уладзімір Цімашэвіч нарадзіўся 13 верасня 1950 года. Быў прэм'ер-міністрам у 1996—1997 гадах, міністрам замежных спраў ва ўрадзе Лешэка Мілера (2001—2004 гг.), а затым ва ўрадзе Марэка Белькі (2004—2005 гг.). Маршал (старшыня) Сейма Польшчы (2005 г.) і адзін з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта ў 1990 годзе (9,21%) і ў 2005 годзе (адмовіўся). Пасля 2005 года не браў удзелу ў палітыцы. У кастрычніку 2007 года быў, аднак, абраны ў Сенат як адзіны беспартыйны кандыдат. Зараз узначальвае Камісію па замежных справах Сената Польшчы.

*("Новы час".)*

У СОСЕДЕЙ

## Украина выбрала новый парламент

*Практически закончилась избирательная кампания в Украине. Был бы или нет таким результат выборов в парламент, если бы в очередной раз перед выборами не поменялось избирательное законодательство?*

*Какие выборные технологии использовали партии власти и оппозиции?*

*Чем отличаются подобные кампании в Украине и Беларуси?*

*Итоги выборов в соседней стране анализирует корреспондент "Народной Воли" в Украине.*

Сегодня результат выборов такой: порядка 30% набрала "Партия регионов", 25,5% — "объединенная оппозиция", около 14% — партия Виталия Кличко "УДАР", 13,1% — коммунисты и 10,4% — партия "Свобода". Это то, что касается голосования по пропорциональной системе, которое проходит по партийным спискам. Если бы правила игры в очередной раз перед выборами не поменяли, то правящее большинство в парламенте могла бы сформировать оппозиция. А так надо считать еще и вторую половину парламента, которая избирается по мажоритарным округам. Тут в лидерах также "Партия регионов". У этой партии есть все возможности создать правящее большинство, не входя в коалицию с какой-либо прошедшей в парламент политической силой. Сделать это будет трудно, но теоретически возможно. После такого расклада политического пасьянса накал страстей будет только постоянно нарастать к моменту проведения президентских выборов, которые пройдут в 2015 году.

Сама парламентская избирательная кампания проходила в атмосфере нервозности и напряженности. Апофеозом стала развернувшаяся борьба за подсчет голосов по мажоритарным округам. Чего, кстати, мы никогда не наблюдаем в Беларуси, где одни кичатся своей вседозволенностью, а другие молча "жуют сопли" и расписываются в полном своем бессилии, не предпринимая никаких шагов, чтобы отстоять свою победу в избирательной кампании. В Украине же агрессивную борьбу за результат ведет не только власть, но и оппозиция. Украина отличается от Беларуси уже тем, что там голоса избирателей все-таки считают. И нет тотальных фальсификаций результатов голосования. Но при определенных возможностях и обстоятельствах как власть, так и украинская оппозиция готовы чуть-чуть добавить себе голосов на выходе. Это "чуть-чуть", как правило, вертится около показателя 5—10%.

Специфическая страна Украина. По своей сути ни власть, ни оппозиция практически друг от друга ничем не отличаются, потому что политики постоянно кочуют из одной политической силы в другую, и все для того, чтобы постоянно находиться при власти и иметь возможность отщипнуть кусочек от бюджетного пирога или получить для близких коммерческих структур определенные преференции. И методы борьбы за власть у них, соответственно, однотипны. В ход идет административный ресурс (но не настолько сильный, как в Беларуси), подкуп избирателей, чиновников, силовиков, запугивание активистов, провокации. Самое интересное, что это не прерогатива провластных политических сил, этим занимается и оппозиция в меру своих возможностей. В современной Украине представитель оппозиционной политической партии запросто может купить представителя силовых структур, чтобы тот, например, возбудил какое-нибудь уголовное дело с целью заблокировать распространение невыгодной для него информации. Оппозиция в Украине рассказывает о том, что того или иного активиста припугнули, слегка намяли бока, но при этом сами применяют те же методы, что и власть. Я был свидетелем одного такого происшествия.

Проходя около одной из станций метро в Киеве, увидел следующую картину. Один из активистов оппозиционной партии, прошедшей в парламент, угрожал пожилой женщине, распространявшей агитационную продукцию, компрометирующую его политическую силу. Этот молодой человек не краснея, с чувством абсолютной уверенности в безнаказанности своих действий обещал ей сначала деньги за то, чтобы она прекратила распространять эту продукцию. Потом, когда она отказалась, сказал, что руки и ноги ей переломает. И все это говорил в присутствии депутата местного совета от одной из оппозиционных партий. В ответ на мое вмешательство он начал угрожать мне, но после появления в моей руке журналистского удостоверения сразу как-то сник и начал меня убеждать, что мне все показалось. Более того, депутат, вызвав представителей сил правопорядка, используя свой мандат, фактически заставил сотрудников милиции незаконно задержать эту женщину и доставить в ближайший РОВД для разбирательства. Это при том, что в Украине для запрета распространения той или иной печатной продукции нужны основания или решение суда, но ни того, ни другого у оппозиционного депутата не было, кроме истерики и угроз всех наказать. Вот вам и применение административного ресурса оппозиционной силой.

Я проехал в РОВД следом за этой процессией. Женщину практически сразу отпустили домой. Я поинтересовался у сотрудников милиции, почему они задержали эту гражданку. "Все-таки депутат настаивал", — был ответ. Конечно, это немыслимо в Донецке, но в Киеве, где партия власти получает всего 12% поддержки избирателей, такое возможно.

В отличие от Лукашенко лидер Украины Янукович прекрасно понимает, что ключ к процветанию его страны, как и благополучие финансово-промышленных групп, стоящих за ним, лежит на Западе и, что бы там ни говорили всевозможные аналитики и политологи, Украина не скатится до состояния Беларуси. Нынешняя украинская власть значительно более открыта для диалога как внутри страны, так и с сопредельными странами. Более открыта, разумеется, чем Беларусь и Россия. Поэтому нет установки Администрации президента к тотальной фальсификации. Более того, в ходе избирательной кампании Центризбирком принимал решения, позволяющие блокировать "серые" технологии по привлечению избирателей к определенным избирательным округам, к которым в основном прибегала правящая партия.

Чтобы добиться необходимого результата, власть, конечно, проводит разного рода манипуляции, но ее возможности существенно ограничены. Ответственность за поражение в этой политической кампании лежит целиком и полностью непосредственно на самой оппозиции. Все это от жадности, коррумпированности и некомпетентности людей, входящих в ее состав. Не всех, конечно. Но эти люди обладают возможностью принятия тех или иных управленческих решений. Власть легко покупает членов избирательных комиссий от оппозиции, покупает кандидатов, имеющих хоть какой-то электоральный ресурс. Если не получается купить кандидата, то покупается руководство оппозиционной партии, которое прекрасно понимает, что кандидат может и не победить, а тут предлагают реальные хрустящие зелененькие бумажки за его снятие с избирательной гонки. Большое количество выделяемого на избирательную кампанию ресурса просто "пилится" участниками процесса. И это происходит не только в оппозиции, но и в провластной партии.

Мне удалось некоторое время изнутри понаблюдать за организацией предвыборной работы в одной из оппозиционных партий. На словах, предназначенных для спонсоров, все красиво, но посмотришь изнутри — сплошная профанация. Избирательная кампания ориентирована не на то, чтобы собрать максимальное количество голосов избирателей, а на то, чтобы положить максимальное количество материального ресурса в собственный карман. Причем все согласовано между центральным офисом и региональным. Раздутые всевозможными штатными единицами штабы формируются в большинстве своем "мертвыми душами". По всей стране начинают показывать липовые отчеты о работе агитаторов, использующих предвыборную технологию "от двери к двери", чего и в помине нет. Если вы думаете, что это какие-то мелочи, то скажу вам, что средненький бюджет оппозиционной партии в какой-нибудь средненькой области равен 2—3 миллионам долларов. Я уже не говорю про правящую партию. Есть за что бороться. И когда интересы центра и местных управленцев пересекаются, начинаются внутрипартийные войны за переделы сфер влияния. И это, заметьте, внутри партии. А что будет, когда эта политическая сила придет к власти?

Самое интересное, что главный предвыборный тезис у этой политической силы — борьба с коррупцией! Было бы смешно, если бы не было так грустно.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ.**

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Выпіў, аслупянеў — і мора па калена

### *А «Народная Воля» выхоўвае, развівае ў чалавеку чалавечае...*

*Не будзем утойваць: падпісны кошт на "Народную Волю" крышачку падняўся. А што рэдакцыі заставалася рабіць? Стаць поўным жабраком, спыніць выданне газеты ці ўсё ж з вашай дапамогай утрымацца? Вунь як выраслі і растуць тарыфы на дастаўку газеты, паліграфічныя паслугі, паперу!*

*Цэны быццам звар'яцелі. Літаральна на ўсё!*

*Сёння бутэлька самай таннай гарэлкі каштуе амаль 30 тысяч рублёў. Выпіў, аслупянеў — і мора па калена. А "Народная Воля" выхоўвае, развівае ў чалавеку чалавечае. Каб атрымліваць яе на працягу цэлага месяца, трэба выдаткаваць на падпіску не 30 тысяч, а значна менш. Паверце, рэдакцыя не нажываецца на падпісчыках. Мы даражым кожным з Вас! Чым болей будзе чытачоў у "Народнай Волі", тым большы ўплыў яна зробіць на ўсё наша жыццё.*

### Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!

*Не заўважыце, як прамільгнуць тыдні — і закончыцца падпісная кампанія. Каб не спазніцца, аформіце падпіску загадзя. Цяжкавата з фінансамі — падпішыцеся на квартал, два месяцы, адзін...*

*Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні, а мінчан — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**

СТАЛІЦА

## Чэрвеньскі рынак запрацуе на новай пляцоўцы

1 студзеня 2013 года Чэрвеньскі рынак закрываецца і на працягу студзеня гандлёвыя кропкі будуць пераязджаць на новую пляцоўку — на скрыжаванне вуліцы Маякоўскага і завулка Маякоўскага, недалёка ад Лошыцкага парку (раней тут было разваротнае тралейбуснае кальцо). Тут арганізуюць каля 700 гандлёвых месц. Дарэчы, сваю назву Чэрвеньскі рынак не зменіць.

На месцы дэмантаванага Чэрвеньскага рынку прадугледжваецца будаўніцтва шматфункцыянальнага грамадска-дзелавога і гандлёва-забаўляльнага комплексу. Інвестарам выступае іранская кампанія Didas.

## Гандляры з «Дынама» пераедуць у Ждановічы

Да 1 студзеня 2013 года закрыецца мінскі рынак "Дынама". Гандаль дзённага рынку "Дынама" перамесціцца на рынак "Ждановічы", ранішняга — на рынак "Курасоўшчына". Чыноўнікі абяцаюць, што на рынку "Ждановічы" на працягу трох месяцаў узровень арэнднай платы для прадпрымальнікаў "Дынама" застанецца ранейшым. Акрамя таго, ім прадастаўлена магчымасць пераехаць на новае месца гандлю з уласнымі ралетамі.

ТЫМ ЧАСАМ

## Два гады на рэканструкцыю стадыёна

Аляксандр Лукашэнка ставіць задачу правесці рэканструкцыю мінскага стадыёна "Дынама" да канца 2014 года.

*"Стадыён трэба пачынаць рэканструяваць ужо заўтра, працаваць трэба аператыўна, каб на працягу двух гадоў рэканструяваць стадыён. Ніякіх тры гады, да канца 2014-га, а лепш да 7 лістапада работы павінны быць завершаны",* — заявіў кіраўнік дзяржавы ў панядзелак на нарадзе па пытанні рэканструкцыі стадыёна.

ЖАХ

## У Мінску застрэліўся афіцэр міліцыі

У сувязі з самагубствам пракуратура праводзіць праверку.

Па звестках інтэрнэт-газеты Naviny.by, надзвычайнае здарэнне адбылося 30 кастрычніка ў 4 гадзіны раніцы ў гарадскім аддзеле міліцыі №2 Фрунзенскага РУУС Мінска. 42-гадовы афіцэр, які знаходзіўся на дзяжурстве, стрэліў сабе ў галаву з табельнай зброі. Смерць наступіла імгненна.

Паводле звестак партала TUT.BY, усё адбылося ў пакоі адпачынку, дзе акрамя гэтага супрацоўніка знаходзіўся і эксперт-крыміналіст РУУС, які ледзь не быў паранены.

У загінуўшага міліцыянта засталіся жонка і трое дзяцей. Літаральна нядаўна сям'я абзавялася новай кватэрай. Як атрымалася высветліць, знешніх фактараў для таго, каб пазбавіць сябе жыцця, у афіцэра не было. Магчыма, меліся некаторыя ўнутраныя праблемы, пошукам якіх цяпер займаюцца супрацоўнікі МУС і пракуратуры.

Дарэчы, паводле неафіцыйных звестак, напрыклад, у 2009 годзе добраахвотна развіталіся з жыццём 10 супрацоўнікаў беларускай міліцыі, у 2010 годзе — каля 5 чалавек. Былі такога роду здарэнні ў мінулым годзе. Па кожным выпадку праводзіліся абавязковыя разборы, вынікі якіх да шырокай грамадскасці не даводзіліся.

ИНТЕРВЬЮ У ПРОХОДНОЙ

# Рабочая косточка,
## или От чего заплакал бы Александр Григорьевич

*Электромонтер гальванического цеха Минского электромеханического завода* ***Борис Ефимович Арцимович*** *назначил мне встречу у памятника Ленину, который стоит у заводской проходной, — чтоб не потеряться. Конечно, я пришла заранее, да еще красную куртку надела — для приметности. Получилось даже символично: ведь интервью проходило накануне 7 ноября. Правда, у памятника стоять не пришлось, там огромная лужа (словно иллюстрация подмоченной на практике ленинской коммунистической идеи). А так, в общем, аккуратно вокруг — газоны. Опять-таки большая стоянка для автомобилей. Раньше, в 1990-х, у заводской проходной по будням парковалось машин десять, рассказывали мне старожилы, что живут в домах напротив завода. А теперь стоянка не вмещает все автотранспортные средства, многим заводчанам приходится искать место в соседних дворах. Так хорошо живет рабочий класс? И вообще, чем он сегодня живет?*

*Борис Ефимович Арцимович работает на электромеханическом с 1983 года. Большой рабочий стаж на одном предприятии позволяет ему высказывать свою точку зрения.*




**— Борис Ефимович, в каком состоянии находится сейчас ваш завод? Сегодня у вас рабочая суббота, значит, дела идут неплохо, а?**

— Первая суббота месяца — планово-предупредительный ремонт, называется "день ППР" еще с советских времен. Надо следить за оборудованием.

**— Завод, слышала, выполняет серьезные заказы.**

— Конечно, наш электромеханический работает на военно-промышленный комплекс. Без штанов ходить будем, а завод останется. Начальники цеха, еще до Демидовича, всегда возвращались с планерок от директора и говорили: "Завал!" А завод как-то плывет себе и плывет. Но, конечно, много старого в цехах стоит, загнивает. Если б Александр Григорьевич приехал, посмотрел, он бы заплакал: что это за оборудование, о какой модернизации может идти речь? Мне кажется, не резонно оставлять государству такое хозяйство в рыночное время. Впрочем, его кусками распродают помаленьку: один цех продали, столовую, метрологию продали. Потихоньку. А что будут строить, не знаю. Ресторан? Что ж, место здесь хорошее.

**— Видно, предприятие все-таки убыточное, раз распродают.**

— Старье гнилое, все течет, хоть бы кто-нибудь зашел к нам на гальванику. Если для вас это в новинку, то приходите к нам в цех, посмотрите, какие у нас лужи — завод не может крышу в цехе отремонтировать. Это не поклеп, но сколько раз просили, ведь заливает.

**— Вы часто простаивали в последние годы? Не отправляли вас в принудительные отпуска на неделю-две?**

— Не сказал бы, что часто. Я беру картину по своему цеху. Отправляли, бывало, на две трети. Это значит, сидишь дома и получаешь 2/3 от оклада. Но случалось это редко, не как система.

**— Сколько зарабатывает рабочий? Назовите примерно — я в чужой карман лезть не хочу…**

— У нас в цехе у рабочих зарплата маленькая: от 2 до 4 миллионов. Но точности не гарантирую, не готовился к таким вопросам.

**— Но вы ж знаете, как проводят, например, отпуск ваши товарищи - по этому можно судить и о доходах. Ездят ли на море, бывают ли за границей?**

— Ха-ха-ха! Нет, не поймите меня неправильно... Да, некоторые могут за год насобирать и поехать, но в нашем цехе ребята не ездят. Раньше в Польшу ездили, что-то продавали. И я ездил. А сейчас по нашему цеху 99,8 процента никуда не ездят.

**— Как вы обедаете во время рабочей недели? Берете с собой перекусывать бутерброды из дому или ходите в заводскую столовую?**

— У нас берут "ссобойки". В основном колбасу едят. И супчик. В цехе у нас из работающих половина пенсионеров. Конечно! А вы что думали! Начальники просят: "Продержитесь хоть еще годок!" А молодые к нам не сильно идут — денег мало.

**— А где больше?**

— Говорят, на автозаводе, на тракторном платят больше.

**— А как молодые кадры подготовлены после колледжей?**

— Неважно. Я беру по своей электрической части. На ходу доучиваем. Желания у молодых нет. Буквально тащить приходится. А все ссылаются на деньги, что мало.

**— Ну да, вот если бы сразу 12 миллионов…**

— Если знаний нет, то, сколько ни дай, работы не будет.

**— Скажите, социальная поддержка от профсоюза осталась?**

— На картошку недавно денег дали — 500 тысяч. Заботятся... Раньше был профилакторий "Лазурный" в Ждановичах, путевки предлагали, но уже год не вижу объявлений, может, продали его. На работе дают регулярно хорошую рабочую одежду, обувь. Пришел — переоделся. Мыло дают хозяйственное.

**— Вспомните, какая у вас была последняя большая покупка в семье?**

— Сейчас расскажу. Жена сказала, что нам нужна хлебопечка. В газете прочитала, что вещь хорошая. Иди, покупай! Заказала по телефону, ей привезли агрегат. В магазине он стоит 1.400.000 рублей. А здесь — всего 650.000. Начала стряпать. А толку никакого! Не замешивает и не печет. Решила вернуть обратно, но продавцы в отказ, не берут. Так жена дошла до Министерства юстиции, чтоб деньги вернули! Добилась.

**— Вы в семье спорите на общественно-политические темы?**

— Нет, не спорю. Потому что если я что-то скажу, то мы с женой сразу начинаем ругаться. Мнения разделяются.

**— А о чем говорите в свободное время в товарищеском кругу? Политику рабочие обсуждают?**

— Это кто? Личный состав цеха? У нас личный состав, по-моему, не отличается от всей Беларуси: "Лишь бы войны не было".

**— Вы человек с юмором. На заводе у вас случались волнения, предзабастовочные ситуации?**

— Так ведь не голодаем же! Значит, все нормально. Какие могут быть волнения?

**— Ну хоть анекдоты рассказываете?**

— Про Брежнева рассказывали, было. А сейчас нет анекдотов!

**— Расскажите, народ сильно пьет?**

— Раньше пили серьезно. А теперь у нас в гальваническом забулдыг не осталось. Начальник цеха крепко наводит порядок.

**— Спрошу про Куропаты. Слышали, что там, в урочище, сейчас происходит? Стройка развлекательного комплекса идет…**

— Я, понимаете, не сильно политизирован. Что было, то было, не надо прошлым жить.

**— А на "Линию Сталина" ездили?**

— Я такое барахло, как "Линия Сталина", не признаю. Прочитайте дневник Франца Гальдера, начальника штаба сухопутных войск вермахта. Он даже не упоминает о таком укрепрайоне на территории Беларуси. Не поеду туда и детям скажу, если спросят, что нечего им там делать. Показуху смотреть? Мне это не надо. В дневнике Гальдера упоминается "линия" лишь на территории Украины, в районе Новгород-Северского, числа 16—18 июля. Вот там действительно шли жестокие бои в течение трех дней. Но украинцы муляж, наверное, не поставили, а? Вообще, я книги военные люблю. У меня три тома Черчилля стоит, Эйзенхауэр, Вудро Вилсон, Сталин — биографии. Вот читаю: куда бы ни приезжал товарищ Сталин, везде наводил порядок. У нас теперь тоже, куда ни глянешь, известно, кто один наводит порядок в стране.

**— А в замках наших отреставрированных бывали?**

— Ну, проезжал мимо Мира... В моем представлении замок — это что-то боевое, а в Мире все слишком красиво.

**— А вот памятник Ленину у завода? Если снесут, заметят рабочие?**

— Так привыкли ж за столько лет. Но лично мне он не мешает.

**— А как вы относитесь к такому политику, как Зенон Пазьняк?**

— Я не сторонник его. Но дань отдаю. Слушал его, когда он был в Верховном Совете.

**— Вы бы перешли на белорусский язык, если бы сейчас потребовалось?**

— Что-то сомневаюсь. Не стану приукрашивать свои возможности. Раньше надо было меня учить. Теперь я как тот мамелюк... Знаете, это белые рабы: турки в средневековье крали детей в соседних государствах, а потом воспитывали их по-своему. Получались хорошие защитники.

**— А ваши дети — что они говорят про родной белорусский?**

— Примерно то же самое. Надо про белорусский говорить тем, кто сейчас ходит в ясли и детский сад. А взрослых ломать...

**— А вы знаете, Андрей Санников эмигрировал в Лондон. Обсуждали?**

— Нет, не обсуждали. Я вот покупаю вашу газету, так меня за это считают представителем бэнээфа. А другие в цехе, вижу, читают только то, где про сплетни и про сад и огород. По телевизору смотрят, конечно, новости. Погоду в основном. И живые юмористические передачи.

**— Как вы думаете, почему рабочий класс так равнодушен к политическим проблемам? Почему оппозиция не завоевала у них симпатии?**

— Откуда ж я знаю про оппозицию? Но, думаю, что наш рабочий класс политически не грамотный. Основная масса. Опять не буду говорить за всех — беру свой цех.

**— Сколько человек работает в цехе?**

— В советское время работало человек 250. Сейчас, не соврать, человек 25. Из них половина пенсионеров.

**— Как вы думаете, будет у нас в спорте больше высоких результатов? Вот президент поменял начальников.**

— "А вы, друзья, как ни садитесь, все в музыканты не годитесь". Что, Рачковский скомандует: "За медалями, марш!" — и все получится? Популизм... Но политики должны "светиться". Прямо как Данко у Максима Горького.

**— Это ваш идеал политика?**

—Что вы! Я жду образованного, воспитанного, грамотного.

**— У вас есть знакомые, которые уехали на заработки за рубеж? Гастарбайтерами…**

— Ни одного.

**— Я слышала, у вас на электромеханическом довольно часто меняются генеральные директора.**

— У нас же "кузница кадров"! Серьезно. Был, например, такой мастер товарищ Сазонов. Его Александр Григорьевич раз — и сделал министром инвестиций и предпринимательства. И инвестиции, сами понимаете, в стране расцвели. Потом был товарищ Пантелей, все кричал, что завод в развале. Завод в развале остался, а он — раз, стал министром связи. А предпоследнего вроде за взятку сняли с должности. Сейчас новый директор, фамилию не помню.

**— А вот, скажем, вы, как один из старейших членов коллектива, можете прийти к директору завода на прием, рассказать о проблемах, что-то покритиковать, потребовать?**

— Вы мне такие вопросы задаете... Лично у меня никогда не возникало такого желания. Но, считаю, кто хочет, может подойти и покритиковать. "Люблю Отчизну я, но странною любовью..." Каждый в своей стране имеет право на критику.

**Елена МОЛОЧКО.**

БЕЛАРУСЬ—ЕЎРОПА

## Яшчэ восем краін

*Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан вітала далучэнне васьмі краін Еўропы да рашэння Еўрасаюза прадоўжыць санкцыі ў дачыненні да Беларусі да 31 кастрычніка 2013 года.*

Краіны, што далучыліся, — Албанія, Ісландыя, Ліхтэнштэйн, Македонія, Нарвегія, Сербія, Харватыя і Чарнагорыя.

Варта адзначыць, што ўсе гэтыя краіны, акрамя Нарвегіі, заявілі пра сваё далучэнне да санкцый ЕС у дачыненні да Беларусі яшчэ ў чэрвені 2012 года.

15 кастрычніка Савет міністраў замежных спраў краін ЕС прыняў рашэнне прадоўжыць санкцыі да 31 кастрычніка 2013 года ў сувязі з тым, што *"не ўсе палітзняволеныя былі вызвалены, а вызваленыя не былі рэабілітаваны, а таксама з прычыны адсутнасці паляпшэнняў у сферы паважання правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў".*

Пад візавыя і эканамічныя санкцыі ЕС трапляюць 243 беларускія чыноўнікі, у тым ліку Аляксандр Лукашэнка.

АВАРИЯ

## Пьяный водитель сбил насмерть 8-летнюю школьницу

За минувшие трое суток на дорогах Беларуси в авариях погибло 11 человек. По информации УГАИ МВД, абсолютно все смертельные ДТП произошли в темное время суток. К сожалению, не обошлось без детских жертв — в первые дни школьных каникул в Борисове под колеса автомобиля попала 8-летняя девочка, в Климовичском районе насмерть сбили 17-летнего юношу.

Про аварию в Борисове в сводке УГАИ МВД отмечено: "*23-летний неработающий житель деревни Гора ехал по Борисову на Opel Vectra. В какой-то момент в его полосе оказалась 8-летняя местная жительница. По предварительным данным, она перебегала проезжую часть. От сильного удара девочка погибла на месте. Водителя доставили на медосвидетельствование, где выяснилось, что в момент ДТП он был пьян — прибор показал 2,15 промилле алкоголя*".

## Четыре года ограничения свободы

Такой приговор вынес суд в отношении водителя, сбившего летом этого года двоих пешеходов прямо на переходе.

Пострадавшие получили тяжелые травмы, один из них даже группу инвалидности. В суде они утверждали, что виновнику ДТП достаточно было извиниться и возместить моральный и материальный ущерб (каждый просил по 20 млн рублей), и этого заседания не было бы. Однако водитель этого не сделал и даже не извинился за то происшествие. Запоздалые извинения прозвучали только на заседании суда Заводского района Минска.

Приговор суда был таким: назначить наказание в виде ограничения свободы на 4 года. У обвиняемого есть 10 дней на обжалование приговора.

БЫВАЕТ И ТАКОЕ

## Отказался от взятки в 300 долларов

В Калинковичах водитель "Лексуса" пытался дать взятку сотруднику ГАИ за несоставление административного протокола по факту управления транспортом в нетрезвом состоянии. Водителя 1955 года рождения, руководителя одной из местных фирм, сотрудники спецподразделения ДПС "Стрела" МВД Беларуси остановили ночью на одном из перекрестков райцентра. Находясь в служебном автомобиле ГАИ, он положил в пепельницу 300 долларов. А в результате получил не только протокол за вождение в нетрезвом состоянии, но и уголовное дело по факту дачи взятки должностному лицу при исполнении.

ФОТАФАКТ

## Ноч зніжак у ГУМе

*У суботу 3 лістапада ў ГУМе прайшла "ноч зніжак". З 21.00 да 00.00 там дзейнічала зніжка ў 12%.*

Пакупнікоў сабралося шмат. Трапіць да любой вітрыны з таварам было вельмі складана, з усіх бакоў іх абляпілі людзі. Попыт быў на ўвесь тавар — ад прышчэпак да тканіны і дываноў. Самая вялікая чарга назіралася ў аддзеле жаночых калготак і панчох.






ЧУЛІ?



## Інвестараў не знайшлося

*Продаж будынка паліграфкамбіната ім. Якуба Коласа ў Мінску не адбыўся. Прычына — адсутнасць удзельнікаў таргоў.*

Будынак месціцца амаль у цэнтры Мінска, насупраць плошчы Якуба Коласа. Плошча паліграфкамбіната больш за 7 тысяч кв. м, на таргі будынак быў выстаўлены за 407 мільярдаў 206 мільёнаў рублёў, што па цяперашнім курсе Нацбанка складае каля 48 мільёнаў долараў. Раней зацікаўленасць у куплі аб'екта выказвалі бізнесмены з Турцыі, Ірана, Лівана, Ізраіля, Францыі, Польшчы і Фінляндыі. Усе яны аглядалі будынак, аднак у аўкцыёне ўдзелу не прынялі.

На паліграфкамбінаце мяркуюць, што, хутчэй за ўсё, патэнцыяльных інвестараў не задаволіла пачатковая цана лота.

Паўторны аўкцыён будзе праведзены 15 лістапада.

НУ І НУ!

## Зарплату не зарабілі?

*Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька даў даручэнне праверыць абгрунтаванасць росту заработнай платы на мінскіх прадпрыемствах. Прычым даручыў спецыялістам камітэта эканомікі Мінгарвыканкама зрабіць гэта на працягу тыдня.*

*"Па шэрагу арганізацый і прадпрыемстваў ідзе некаторае перавышэнне тэмпаў росту заработнай платы над тэмпамі росту прадукцыйнасці працы. Па камунальных прадпрыемствах такіх суадносін быць не павінна",*— падкрэсліў Ладуцька.

Аб выніках праверкі старшыня Мінгарвыканкама даручыў даладжыць на наступнай аператыўнай нарадзе — у наступны панядзелак.

Дарэчы, Мінск зараз лідар па сярэдняй зарплаце у краіне. У верасні ў работнікаў сталіцы сярэдні заробак склаў 5 млн 175,8 тысячы рублёў. Гэта больш за 500 долараў — сярэдняй зарплаты, якую абяцаюць улады.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

## Колькі можна рамантаваць?

*У Мінску ў 2013 годзе капітальна адрамантуюць 14 вуліц і абновяць два галоўныя праспекты — Незалежнасці і Пераможцаў.*

Што тычыцца праспекта Пераможцаў, які, дарэчы, злучае Дразды і Адміністрацыю прэзідэнта і рамантуецца вельмі часта, то гэтым разам плануецца адрамантаваць участак паміж вуліцамі Леніна і Радужнай. Па словах генеральнага дырэктара “Гаррамаўтадара” Дзяніса Глінскага, тут цалкам заменяць два пласты асфальтабетоннага пакрыцця, дарожны борт.

**ВІНШУЕМ!**

## Марыя ІТКІНА: «У мяне ў іншы дзень юбілей...»

*3 лістапада прымала віншаванні з 80-гадовым юбілеем у мінулым вядомая лёгкаатлетка, старшыня Саюза спартсменаў Беларусі Марыя Лявонцьеўна ІТКІНА. Праўда, сама імяніннiца распавяла “Народнай Волі”, што юбілей у яе ў іншы дзень.*



— Разумееце, калі я знаходзілася ў дзіцячым доме, пераблыталі дату майго нараджэння, — распавядае Марыя Лявонцьеўна. — Наляпалі ўсё гэта ў пашпарце, а адтуль і пайшло. На самай жа справе Дзень нараджэння ў мяне ў маі, яшчэ будзе юбілей.

Тым не менш Марыя Іткіна не крыўдуе і кажа, што гэта яшчэ адна добрая нагода ўспомніць пра Саюз спартсменаў.

— Наша арганізацыя па-ранейшаму вельмі моцная, — распавядае яна. — Узнагароджаны ордэнам Айчыны, працуем... Каля 150 кватэр пабудавалі спартсменам, хіба гэта мала? Людзі не з’ехалі з краіны, засталіся тут, каб прыносіць карысць айчыннаму спорту. Хіба гэта не подзвіг саюза?

**— Колькі зараз “штыкоў” налічвае ваша арганізацыя?**

— Больш за паўтары тысячы сяброў. І Саюз спартсменаў пашыраецца, але гэта тэма для асобнай гутаркі...

Нагадаем, што Марыя Іткіна — заслужаны майстар спорту СССР, заслужаны трэнер Беларусі. 32-разовая чэмпіёнка СССР (22 залатыя медалі ў алімпійскіх відах лёгкай атлетыкі, 10 — у неалімпійскіх). 11-разовая рэкардсменка свету, 18-разовая рэкардсменка СССР.

**Алесь СІВЫ.**

## Сумар пел и плясал для российских журналистов

Журналисты из России, пресс-тур которых в Беларуси запомнился итоговой пресс-конференцией Александра Лукашенко, делятся своими впечатлениями о нашей стране на страницах своих изданий. Вот цитата из статьи Африкана Соловьева из “Советской Чувашии” (г.Чебоксары ) “Такая незнакомая знакомая Белоруссия:

“...Например, губернатор Брестской области Константин Сумар по знанию производственно-социальной проблематики напоминал старые советские кадры, а по манере общения с журналистами, поведения на приеме (читай: банкете) проявлял себя как суперсовременный менеджер без галстука и даже пиджака. Он говорил нестандартные тосты, доверительно общался с нами, лихо отплясывал модные танцы, весьма достойно спел “Подмосковные вечера”, “Беловежскую пущу” и даже “Скажите, девушки, подружке вашей”. Исключительно положительно понравились нам и руководители районов, заводов и фабрик”.

**ВОПРОС—ОТВЕТ**

## Откуда везут фальшивую валюту?

***Подруга уезжала на заработки в одну из соседних стран, а по возвращении выяснилось, что вместо зарплаты привезла фантики — фальшивые деньги. Часто ли такое бывает?..***

***И есть ли данные, сколько белорусов уезжают за границу в поисках лучшей доли и заработка? Хотелось бы знать более-менее официальные цифры...***

**Ольга ПЕТРОЛИЧ, Витебск.**

По данным Главного управления по борьбе с экономическими преступлениями МВД Беларуси, в 2011 году около полумиллиона белорусов находились на заработках за рубежом и только из России привезли 240 миллионов долларов.

В управлении отмечают, что трудовые мигранты нередко привозят в Беларусь фальшивую валюту. Причем рынок поддельных дензнаков в последнее время увеличился.

*“По информации правоохранительных органов, среди фальсификатов преобладают доллары, затем идут (в порядке убывания) российские рубли и евро,* — сообщает balapan.by. — *Подделка национальной валюты составляет 4% от общего количества фальшивок, изъятых из оборота. Есть единичные примеры сбыта фальшивых гривен, фунтов, юаней”.*

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

*Андрэй САННІКАЎ:*

# «Тое, што я абяцаў людзям, якія мяне падтрымлівалі, я выканаў»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

***— “Я хачу вярнуцца ў краіну як мага хутчэй. Калі ад мяне для краіны ёсць карысць, то, вядома, я прыняў бы пэўныя прапановы”,* — заявілі вы агенцтву Reuters. Якія магчымыя прапановы і ад каго вы тут мелі на ўвазе?**

— Інтэрв’ю было даволі працяглае, а паказаны былі ўрыўкі, вырваныя з кантэксту. Там ішла гаворка пра тое, ці буду я, калі краіна стане свабоднай, удзельнічаць у новай уладзе і ў працэсах, якія будуць адбывацца ў краіне. Вядома, буду.

**— Чакаючы магчымасці для вяртання, вы, напэўна, не збіраецеся сядзець склаўшы рукі. Чым вы плануеце заняцца на новым месцы?**

— Шмат ёсць чым займацца, што рабіць, што чытаць, што пісаць, пра што гаварыць. Буду займацца тым, чым займаўся. Я — дыпламат. Адзін з маіх настаўнікаў калісьці сказаў (і я прытрымліваюся гэтага прынцыпу): трэба шукаць сяброў для сваёй краіны.

**— Ці азначае ваша эміграцыя выхад з палітычнага ценю?**

— Не ведаю, што значыць “палітычны цень”...

**— Тое, што ўсе гэтыя месяцы пасля вашага вызвалення вас было не відаць і часта можна было пачуць пытанне: “А дзе ж Саннікаў?”**

— На першым месцы ў мяне сям’я, мае сябры і калегі, якія сядзяць цяпер у турме ў вельмі складаных умовах. Бо проста нечалавечыя ўмовы створаны для ўсіх палітвязняў. Тое, што адбываецца з палітвязнямі пасля 2010 года, — такога не было нават у савецкія часы. Так, тады ненавідзелі палітычных, але ўсё ж не навязвалі ім крымінальныя звычаі і парадкі. А зараз нехта вырашыў, што можна здзекавацца з палітычных нават больш, чым з крымінальнікаў. Зараз найбольш складанае становішча ва ўсіх палітычных вязняў Беларусі.

**— Некаторыя палітвязні пасля падзей снежня 2010-га ў турме пісалі кнігі. Ці будзе ў вас свая турэмная кніга?**

— Не, на гэта патрэбны час. Мая жонка пісала, бо яна працавала як уласны карэспандэнт “Новой газеты” нават у турме. Мне патрэбны час, каб у выніку зрабіць нешта такое, што дапамагло б іншым людзям.

**— Некаторыя маладыя палітычныя актывісты робяць вам закід, што ўцёкі з Беларусі — гэта слабасць: маўляў, нашто тады наогул трэба было ўступаць у гэтую палітычную гульню, калі вы не былі гатовы “ісці да канца”?**

— Я ішоў да канца, і тое, што я абяцаў тым людзям, якія мяне падтрымлівалі, я выканаў.

На Плошчы я бачыў вялікі ўздым. Гэта быў вялікі дзень для Беларусі, і гэта не знікне. Я паважаю маладых і не буду спрачацца. Маладым належыць вылучацца пэўным радыкалізмам. Але я яшчэ раз падкрэсліваю: працаваць у Беларусі пасля турмы было немагчыма.

**— Не буду зараз спекуляваць канкрэтнымі лічбамі і крыніцамі, але ёсць падставы меркаваць, што на выбарах 2010 года вы занялі другое месца. Наўрад ці будзе перабольшаннем сказаць, што за вас рэальна галасавалі сотні тысяч беларускіх грамадзян. Вы сапраўды зарабілі немалы палітычны капітал — што цяпер з ім рабіць?**

— Я адчуваў гэты капітал за кратамі па тым, як паводзілі сябе мае турэмшчыкі, якія спрабавалі прымушаць мяне хлусіць на допытах, якія рабілі на мяне велізарны ціск. Я адчуваў гэта і пасля таго, як выйшаў з турмы, бо кожны дзень, калі я выходзіў з дома, людзі віталіся. Між іншым, адзін з тых, хто вітаўся, у каго быў мой нумар тэлефона, патэлефанаваў мне і сказаў, што з ім размаўлялі супрацоўнікі КДБ... Так, гэта быў палітычны капітал мой і маёй каманды, бо мы прапаноўвалі альтэрнатыву, якая існуе і сёння і павінна рэалізоўвацца ў Беларусі.

Падтрымка людзей у маёй каманды была і дагэтуль ёсць. Мы будзем рэалізоўваць гэтую альтэрнатыву. Пачалося даволі цікавае і вострае абмеркаванне ў Беларусі, і мы таксама будзем у ім удзельнічаць і прапаноўваць свае падыходы. Відавочна, што ўсе мы павінны шукаць выйсце з гэтай сітуацыі.

**— А як вы ставіцеся да новых спроб “класіфікацыі” апазіцыі, якія нядаўна прагучалі ў Празе за кулісамі “Форуму 2000” — да падзелу яе на “празаходнюю” і “прарасійскую”, “памяркоўную” і “радыкальную”, і пры гэтым складаюцца нейкія новыя канфігурацыі? Ці “каб аб’яднацца, спачатку трэба добра размежавацца”?**

— Нічога новага для сябе я тут не бачу. Мяне называлі радыкалам, але гэта прынцыповасць, а не радыкалізм. Прынцыповасці сёння не хапае не толькі ў Беларусі, але і ў Еўропе — у дачыненні да Беларусі.

Нічога новага няма ў тым, што кагосьці спрабуюць абвінаваціць у прарасійскасці ці непрарасійскасці. Я таксама апынуўся пад такім абвінавачаннем напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі... Ёсць пэўныя прынцыпы, якіх мы павінны прытрымлівацца. Калі трэба размяжоўвацца, дык трэба размяжоўвацца. Не бачу нічога небяспечнага ў гэтых дыскусіях — нармальна, што яны ідуць і абвастраюцца. Не гатовы зараз казаць пра нейкія канфігурацыі, якія могуць узнікнуць у Беларусі і па-за яе межамі, але тое, што гэта абмяркоўваецца, — гэта добра.

**— Ваша судзімасць захаваецца яшчэ 8 гадоў. Гэта значыць, што ў выбарах прэзідэнта 2015 (дый 2020-га) года пры цяперашніх законах вам удзельнічаць не дазволяць. Як вы сабе ўяўляеце 2015 год і сваё месца ў палітычных раскладках? Бо выглядае на тое, што новая прэзідэнцкая кампанія ўжо пачалася...**

— Ніякай судзімасці паводле міжнароднага права ў мяне няма. Я быў прызнаны вязнем сумлення. Увогуле лічу, што памылкова цяпер казаць пра нейкія сцэнарыі на выбарах. Няма ў нас выбараў. Нельга зноў казаць, што ў 2015 годзе будзе нейкі шанец. Трэба думаць іншымі катэгорыямі — што рабіць сёння? Па-першае, памылкова ўжо цяпер абмяркоўваць нейкі новы “сцэнарый адзінага”. Быў “адзіны” і ў 2001 годзе, і ў 2006-м.

У 2010-м не было “адзінага”, хоць былі спробы пэўных колаў і сіл зноў пайсці паводле старога сцэнарыя. Але найбольш яскравая прэзідэнцкая кампанія была ў 2010 годзе, і тады людзі атрымалі больш надзеі. І не таму, што Лукашэнка вырашыў даць нейкую палёгку і згуляць у дэмакратыю. Вялікая колькасць актывістаў з рознымі поглядамі, але ж дэмакратычнага накірунку, працавалі з людзьмі, прапаноўвалі свае праграмы, свае шляхі выйсця з тупіковай сітуацыі і абудзілі краіну.

І зараз казаць: давайце зноў аб’ядноўвацца вакол “адзінага” — гэта мне падаецца не толькі штучным, але і вельмі небяспечным.

Трэба зараз бачыць, што адбываецца. Тое, што народ выразна сказаў сваё “не” парламенцкім выбарам, — гэта працяг 2010 года. У 2010 годзе народ абіраў свайго прэзідэнта, і гэта быў не Лукашэнка. І гэтыя спробы зрабіць свой выбар мы бачылі падчас парламенцкіх выбараў, калі людзі проста не пайшлі на галасаванне.

Салідарнасць, якая пачала адчувацца ў грамадстве пасля выбараў 2010 года, зараз ператварылася ў непрыняцце гэтага рэжыму, гэтай палітычнай сістэмы наогул, а не толькі першай яе асобы.




**Саннікаў, Атрошчанкаў, Бандарэнка...**

Пакуль гэта пасіўнае непрыняцце, людзі проста не ходзяць галасаваць. І вось гэта трэба падтрымліваць, ісці далей. Калі зараз палітычныя лідары пачнуць казаць: давайце забудзем тое, што адбываецца сёння, і пачнём рыхтавацца да 2015 года, — гэта будзе фальшыўка, якая не задаволіць людзей у Беларусі.

**— Зянон Пазьняк у нядаўнім інтэрв’ю сайту InterPolitTV рэзка скрытыкаваў беларускую апазіцыю, у прыватнасці заявіўшы, што тая цалкам фінансуецца і кантралюецца Захадам і не мае ўласных ідэй і мэт, а дзеянні кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах назваў клаўнадай. Фактычна гэта ўсё датычыцца і вас. Некаторыя апазіцыйныя лідары ўжо зрэагавалі на гэтыя выказванні на нашым сайце. Цяпер такая магчымасць ёсць у вас.**

— Не буду гэта каментаваць. Я ведаю, што я рабіў падчас выбараў, ведаю, што быў вынік — вялікая падтрымка. Шчыра скажу, што я чакаў моцнай падтрымкі маёй каманды, але такой масавай падтрымкі людзей я не чакаў. Вось гэта для мяне паказчык таго, што рабіць далей. А тое, што кажуць іншыя, — для мяне гэта добры знак: рэзкая, непаліткарэктная дыскусія — гэта знак таго, што нешта будзе адбывацца.

**— Хто для вас сёння сярод жывых маральны аўтарытэт у Беларусі?**

— Бясспрэчны маральны аўтарытэт — Рыгор Барадулін. Вельмі паважаю Станіслава Шушкевіча, ён для мяне таксама маральны аўтарытэт.

Мае маці, жонка, сястра і бацькі маёй жонкі, сябры, якія сядзелі у турмах і якія дапамагалі маёй сям’і, — маральныя аўтарытэты.

**— Якое найбольшае расчараванне адчулі вы за гэтыя амаль ужо два гады?**

— Самае вялікае расчараванне было ў тым, што ніхто не наважыўся сысці ў адстаўку — нават з сярэдняга ўзроўню дзяржапарату. Гэта быў знакавы момант для гісторыі Беларусі, калі людзі, якія не страцілі да канца свайго гонару і сумлення, маглі б пайсці ў адстаўку.

Можа, гэта ні на што б і не паўплывала, але для іх саміх захавалася б магчымасць неяк выйсці з той сітуацыі, у якой яны апынуліся. Нічога такога не здарылася. Для мяне гэта было даволі цяжка, бо, хаця ў мяне не было ніякіх шчыльных кантактаў з афіцыйнымі асобамі, але ж пэўных людзей я лічыў даволі прыстойнымі. Цяпер я так не лічу.

**— І наадварот — што зрабіла на вас найбольшае пазітыўнае ўражанне, ну, вядома, апрача сустрэчы з сям’ёй? З чым вы звязваеце найбольшыя надзеі?**

—Стаўленне людзей, падтрымка людзей. Хачу шчыра падзякаваць людзям за дапамогу, за падтрымку мяне, маёй сям’і, за тое, што людзі ўспрынялі гэта як асабісты боль і трагедыю. Гэта і дагэтуль мяне натхняе і дае шмат сіл. Тое, што адбылося 19 снежня 2010 года і што адбывалася падчас судовых працэсаў, стварыла сітуацыю салідарнасці. І гэтая салідарнасць тычылася не толькі нас. Людзі пачалі дапамагаць адзін аднаму, цікавіцца, сачыць за тым, каб у іх сяброў, у іх блізкіх была падтрымка ў неабходны момант. Я ўбачыў гэта, калі выйшаў на свабоду: людзі, якія пазнаёміліся, бо разам удзельнічалі ў акцыях, разам былі на судовых працэсах, разам дапамагалі сем’ям палітвязняў.

*(Радыё Свабода.)*

**ТЫМ ЧАСАМ**

## Прэс-сакратар Саннікава — у Варшаве

Аляксандр Атрошчанкаў быў адной з ключавых персон у штабе Андрэя Саннікава на прэзідэнцкіх выбарах. За ўдзел у Плошчы Атрошчанкаў быў асуджаны на 4 гады калоніі і быў вызвалены рашэннем Лукашэнкі, хаця прашэнне аб памілаванні не пісаў.

Атрошчанкаў ад 3 верасня знаходзіцца па-за межамі Беларусі. Зараз з жонкай і сынам ён у Варшаве. На пытанне, ці будзе прасіць палітычнага прытулку ў Польшчы, адказвае так: “Не хацеў бы. Буду глядзець. Пакуль што я разглядаю сваё знаходжанне ў Варшаве як доўгатэрміновую камандзіроўку”.

**СУД ДЫ СПРАВА**

# «За што ў нас так здзекуюцца з людзей?!»

*“Народная Воля” распавядала ў свой час пра бабруйчаніна **Аляксандра Каваленку**, які дамогся адмены абвінаваўчага прысуду пасля таго, як ужо адсядзеў у калоніі 3 гады і 2 месяцы з дзевяці прызначаных. Сёння Аляксандр Якаўлевіч ізноў “б’е ў набат”...*

Нагадаем сутнасць гісторыі. У 2004 годзе па абвінавачванні ў здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства быў арыштаваны і асуджаны да вялікага тэрміну сын Аляксандра Каваленкі. Апошні з жонкай вырашылі змагацца за сына, забяспечваючы таму прававую дапамогу. Але Каваленку сталі тэлефанаваць невядомыя: маўляў, калі не спыніш сваю праваабарончую дзейнасць, падкінем наркотыкі і сядзеш разам з сынам. У выніку Аляксандра Якаўлевіча і абвінавацілі ў гандлі наркотыкамі. Справа была “ліпавая”, але вердыкт суда быў жорсткім — 9 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Толькі пасля таго, як чалавек ужо адсядзеў 3 гады і 2 месяцы, Вярхоўны суд Беларусі разглядзеў касацыйную скаргу Аляксандра Каваленкі і прыняў рашэнне адмяніць абвінаваўчы прысуд.

— Я патрабаваў маральную і матэрыяльную кампенсацыю ў памеры прыкладна 847 мільёнаў рублёў, — распавядае Аляксандр Якаўлевіч. — Узяў сярэднямесячны заробак ў перыяд з 2006-га па 2009 год і памножыў на колькасць сутак, якія знаходзіўся ў няволі. Адзначу, што памнажаў не на месяцы, а менавіта на суткі, таму што знаходзіўся не на курорце. Але суд тады прыняў рашэнне ў частцы маральнага іску выплаціць мне 25 мільёнаў рублёў і да гэтага — кампенсаваць іншыя выдаткі.

Аднак гэта ўжо ў мінулым. Сёння Аляксандр Каваленка зноў вымушаны змагацца за сына, які працягвае заставацца за кратамі.

— Адбываць пакаранне сыну засталося каля 8 гадоў, прыкладна столькі ж ён ужо адсядзеў, — распавядае суразмоўца. — Ва ўсіх характарыстыках пісалі, што чалавек цвёрда стаў на шлях выпраўлення, прызначалі брыгадзірам у сталовую, давалі нават матэрыяльную дапамогу... Нармальны хлопец, не з “блатных”. Быў пададзены пратэст, але Вярхоўны суд яго не задаволіў. Хоць у справе столькі разыходжанняў! І сёння маем тое, што маем, — сын па-ранейшаму за кратамі. Супадзенне гэта ці не, але пасля майго вызвалення на сына ў Магілёўскай калоніі ўзмацніўся ціск. Па непацверджаных звестках, праходзілі “разборкі” ў адміністрацыі ўстановы, але сын адмовіўся напісаць заяву на кагосьці з афіцэраў. Так гэта ці не так — невядома. Між тым сына ў хуткім часе знялі з пасады брыгадзіра сталовай, раптоўна перавялі ў Шклоў.

У Дэпартаменце выканання пакаранняў Аляксандру Каваленку паведамілі, што такі перавод законны.

— І дадалі, што сына перавялі ў Шклоўскую калонію быццам бы ў мэтах бяспекі, каб у адносінах да яго не маглі здзейсніць супрацьпраўныя дзеянні асуджаныя і супрацоўнікі калоніі, — кажа Аляксандр Якаўлевіч. — Прабачце, але для чаго тады наогул знаходзяцца ў калоніі афіцэры, калі яны не ў стане забяспечыць бяспеку чалавеку, які адбывае пакаранне? Мы пайшлі ў пракуратуру, якая правяла службовае расследаванне і дала рэкамендацыю Дэпартаменту выканання пакаранняў перавесці сына ў Бабруйск, дзе жывём мы з маці. Перавялі. Але зноў — прэсінг. На працягу двух месяцаў не маглі звязацца з сынам, пайшлі правакацыі супраць яго. Магчыма, быў негалосны загад зрабіць з сына злоснага парушальніка рэжыму... Праз некаторы час даведаліся, што яго пераводзяць ужо ў Івацэвіцкую калонію. Маўляў, адмоўна ўплывае на асуджаных. Восем гадоў чалавек у няволі “станавіўся на шлях выпраўлення”, і раптам яго падмянілі?! Вы верыце ў гэта? Я не веру, бо ведаю гэтую сістэму, прайшоў школу жыцця ў калоніі...

*“Не ведаю, што мне рабіць далей,* — кажа Аляксандр Каваленка. — *Ці гэта помста сыну за мяне, што ў свой час паказаў сутнасць нашай прававой сістэмы, ці існуюць іншыя падводныя камяні. Няўжо ў нашу так званую “сістэму выхавання” спецыяльна падбіраюць такіх, каму падабаецца здзекавацца з людзей? Куды мы прыйшлі? За што мой бацька ваяваў у гады Вялікай Айчыннай вайны, а я 41 год адпрацаваў на вытворчасці? Хто, у рэшце рэшт, зможа даць адказы на ўсе гэтыя пытанні? Не адкажуць — буду змагацца”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



**СЛЫШАЛИ?**

## Одиноким предоставляется... пожизненное содержание

### В обмен на квартиру.

Минчанам старше 70 лет, у которых нет родственников, обязанных их содержать по закону, предлагается заключить с местными властями договор пожизненного содержания с иждивением. Заместитель председателя комитета по труду, занятости и социальной защите населения Мингорисполкома **Ирина Дудка** говорит, что главным условием заключения договора является согласие пенсионера отдать свою квартиру государству после смерти.

Новая форма социального обслуживания имеет две формы. **В первом случае** пожилой человек живет в своей квартире, и к нему пять раз в неделю приходит социальный работник территориального центра социального обслуживания, который выполняет ряд услуг по хозяйству.

Кроме того, Минск из средств местного бюджета оплачивает этому гражданину полностью коммунальные услуги и техобслуживание, за исключением телефонных разговоров. Гражданину сохраняется пенсия, которую он может использовать по своему усмотрению. Кроме того, ежемесячно из средств местного бюджета ему выплачивается рентная плата, которая устанавливается при заключении договора и составляет ежемесячно от 1 до 3 базовых величин — от 100 до 300 тысяч. Ежегодно по мере необходимости в квартире за счет средств местного бюджета проводится косметический ремонт: замена сантехнического, газового оборудования и другое.

**Вторая форма услуги** предполагает переезд гражданина в городской дом-интернат для ветеранов войны и труда и пожилых граждан “Світанак” повышенной комфортности, который находится в Минском районе. Там по желанию гражданина ему предоставляется отдельная комната, где по его усмотрению проводится косметический ремонт. Проживание бесплатное, гражданину также выплачивается пенсия и рентная выплата, обеспечивается постоянное медицинское наблюдение. Квартира гражданина в это время может сдаваться, а вырученные средства идут государству.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ЛІСТАПАДА 2012 г.

ВПЕЧАТЛЕНИЯ

# «Немного живет поэтов в глуши бессарабской этой»

## *Противоречивые заметки о южном городе Кишиневе*

*Кишинев — город аптек, ломбардов и обменных пунктов. Все остальное на втором плане, все остальное приезжему еще надо постараться рассмотреть, а эти вывески сопровождают вас в городе повсюду с ритмичностью в 500—800 метров. Что ж, для кризисной ситуации, в которой давно плавает (или тонет?) экономика Молдовы, они вполне логичны: архивыгодный аптечный бизнес, не менее хорошо окупаемый ростовщический, заемный, а также валютно-обменные операции, которые предлагаются вам везде, чуть ли не в подъездах через самодельные фанерные окошки. (Напомню: четвертая часть населения Молдовы находится на заработках за границей и привозит в отчизну живую валюту).*



**Депутат Стелла Жантуан.**

Впрочем, вы можете быть не наблюдательны и не смотреть на вывески, вы также можете не иметь представления о текущем политическом моменте Республики Молдова, о банкротстве местных политических элит и депутатского корпуса страны. Но то, что властям пока явно не до бытования, не до обыденности, которой, собственно, и живет, которую и хлебает полной ложкой народ, вы, гость города, в Кишиневе почувствуете сразу.

Все начинается с маршруток, их непредсказуемых остановок "по требованию". До микрорайона "Рышкановка" из центра и 10 минут не будет, обещали мне кишиневцы. Но ехали полчаса. Виляли, заезжали даже во дворы, чуть ли не к подъездам (знакомых развозили, что ли?), при этом автобус, как семечками, был набит "стоячими" пассажирами. Милиция, естественно, давно требует порядка. И прижали-таки недавно водителей огромными штрафами. Те забастовали — классическое орудие пролетариата! Представители власти сразу пошли на попятную. И хаотичное аварийное движение по улицам молдавской столицы продолжается.

Или вот грязная яма у ЦУМа, именуемая фонтаном. Журналисты всех местных газет, кажется, "перо" затупили, недоумевая, почему у мэрии руки не доходят до этой развалины. Но, оказывается, есть у места конкретный собственник, которому невыгодно чинить фонтан, у него "другие планы". Видимо, торговые ряды или закусочные палатки. В общем, конфликт частного с коллективным. И коллективное остается в проигрыше.

В столице почти нет тротуарной плитки, а старый асфальт вздулся от корней акаций. Остановлены стройки, не отремонтированы фасады зданий, плохое уличное освещение. В конце концов, по проспекту Штэфано чел Маре ходят бродячие собаки, стаями или по одной, — экзистенциальное зрелище... Очевидно, что в казне нет денег. Но решение законодателей о повышении отчислений в фонд социального страхования даже на 1% вызывает негодование у профсоюзов, они на площадь выводят тысячи протестующих. У людей нервы на пределе, это понятно. Но что власть? Она снова отступает.




**Даже в независимой Молдове по-прежнему нужны русские матрешки.**

И все остается по-прежнему.

Я спрашивала у прохожих:

— Скажите, где молдавский парламент?

— Парламент? Где это? Не знаю!

— Как пройти к зданию правительства?

— Что-о? Куда-а?

— Это МИД республики?

— Зачем вам это?!

Нет, люди в Кишиневе, как везде, — кто приветливый, кто просто очень занятой. Они не отмахивались от меня, напротив, останавливались, выслушивали, а потом, я видела, оказывались в ступоре, в легком замешательстве от вопросов: что этой женщине нужно? Госучреждения не входили в систему их жизненных маршрутов, а тем более интересов. Что, в общем-то, понятно. Но ведь я стояла не на окраине города, а в 200—300 метрах от каждого из названных зданий...

Неожиданно мои впечатления о своего рода "информационном вакууме" местных жителей поддержал врач Валентин Богатый, у которого я остановилась на несколько дней. Не специально, а так, к слову, рассказывал мне, гостье, о родном городе, попутно удивляясь соотечественникам:

— По телевизору показывали как-то сюжет. Репортер стоял у здания нашей филармонии и спрашивал прохожих: "Вы не знаете, где в городе органный зал?" Никто не знал. Ни один человек не ответил. А на фронтоне здания между тем огромными буквами: "Органный зал". Но мои бедные кишиневцы смотрят теперь, кажется, только себе под ноги...

Депутат молдавского парламента Стелла Жантуан, член демократической партии, заместитель председателя комиссии по правам человека, объяснила недоинформированность граждан так:

— В Молдове полным ходом идет процесс деурбанизации. Огромный поток сельских жителей двинулся из деревень в города на жительство из-за того, что села не развиваются, там нет работы. И вот на наших глазах у нас практически исчезает городская культура. Сегодня сельчане задают столице свою планку жизни. Они не знают, где парламент. Они знают, где в городе базар.

— Стелла, как вы вообще оцениваете ситуацию в стране?

— Все так называемые сложности успешно создаются непрофессионалами в политике. А политиков-профессионалов в Молдове можно по пальцам пересчитать. И это при том, что я сейчас их не делю ни по их взглядам, ни по тому, согласна я с ними или нет.

— Знаете, в чем самая главная наша ошибка? — продолжала депутат. — В том, что ни одна политическая партия никогда не задумывалась о своей социальной базе. От этого и такие метания на политическом олимпе: одна партия переходит в другую или вообще в три различные, и люди из этих партий тоже постоянно мигрируют. У нас сегодня программы всех партий похожи друг на друга. Впрочем, если подходить философски к происходящим в нашей стране процессам, они вполне вписываются в эволюционный процесс укрепления и развития любого государства с таким маленьким опытом суверенности и независимости, как у Республики Молдова.

Политик Стелла Жантуан начинала свой жизненный путь как преподаватель философии, этики и эстетики, поэтому, наверное, любит философские обобщения.

— Политике сейчас нужны идеалисты, максималисты, которые бы сказали: "Мы хотим, чтобы Молдова была самой процветающей страной, и мы сделаем это!", — уверенно продекларировала депутат. — И тогда это их искреннее желание, вера перерастет во что-то качественное, в конкретные действия, которые изменят ситуацию в стране и жизнь наших граждан в лучшую сторону.

В одном из интервью молдавским СМИ г-жа Жантуан говорила, что если бы она когда-нибудь решила что-то написать, то это была бы юмористическая книга о молдавской политике. "То, что иногда происходит у нас, иначе, чем юмористическим альманахом, назвать невозможно". Но процитирую молдавского поэта Збигнева Махея: "Немного живет поэтов в глуши бессарабской этой". Может, оно и к лучшему, что такой книги пока нет: хорошо смеясь расставаться с прошлым. А если это пока твое ежедневное настоящее?..

**Елена МОЛОЧКО.**

*Кишинев—Минск.*

## *Не стаим на месцы...*

У Беларусі з 1 студзеня 2013 года на 20% будуць павялічаны стаўкі акцызаў на бензін і дызельнае паліва. Гэта прадугледжана законам РБ №431-З ад 26 кастрычніка 2012 года, якім унесены змены і дапаўненні ў Падатковы кодэкс рэспублікі.

Згодна з дакументам, стаўка акцызу на бензін з актанавым лікам 95 і вышэй складзе 1 млн 231 тыс. 500 рублёў за тону, на бензін з актанавым лікам ад 91 да 95 — 1 млн 544 тыс. рублёў, з актанавым лікам да 91 — 1 млн 751тыс. 100 рублёў. Стаўка акцызу на дызельнае паліва ўстаноўлена ў памеры 991 тыс. 800 рублёў.

ВСПЫШКА

## *Работники столовой заразили школьников*

*Из-за кишечной инфекции в лунинецком лицее перенесли каникулы.*

26 октября в инфекционное отделение Лунинецкой центральной районной больницы были госпитализированы 16 старшеклассников местного лицея, 27 октября — еще три. Большинство заболевших доставили в больницу бригады скорой медицинской помощи. На днях заместитель главного государственного санитарного врача Брестской области Елена Ильяшева сообщила, что причиной групповой заболеваемости острой кишечной инфекцией учащихся лицея в Лунинце стал золотистый стафилококк.

По ее словам, в ходе эпидемиологического расследования установлено, что передача возбудителя инфекции происходила пищевым путем. Источником инфекции стали работники пищеблока учебного заведения — носители стафилококка.

*"Они отстранены от работы и проходят санацию в амбулаторных условиях. 26 октября предписанием главного государственного санитарного врача Лунинецкого района пищеблок лицея был закрыт, и сейчас там ведутся ремонтные работы. Начало каникул в этом лицее было перенесено с 1 ноября на 29 октября. В настоящее время в области проводятся внеплановые проверки пищеблоков всех учреждений образования",* — рассказала Ильяшева.

ИНИЦИАТИВА

## *Банкам предлагают проверять подлинность валюты за деньги*

*С инициативой ввести такую услугу выступает главное управление по борьбе с экономическими преступлениями МВД Беларуси.*

*"В России, Украине и Германии в случае сомнения в подлинности граждане могут проверить валюту бесплатно либо с установленной фиксированной комиссией. В Беларуси такой практики пока нет. Между тем в условиях функционирования теневого рынка наличной валюты это могло бы снизить количество фактов фальшивомонетничества"*, — говорится в сообщении ГУБЭП МВД.

По данным милицейского ведомства, с начала этого года в Беларуси у валютчиков изъято 1,7 млрд рублей в эквиваленте. Более 400 человек привлечены к административной ответственности. Возбуждено 27 уголовных дел. Такие данные обнародовало главное управление по борьбе с экономическими преступлениями МВД.

ТАМ, У ІХ

# Як пачуваюць латышскія беларусы у Еўрасаюзе?

*Тры гады таму ў Даўгаўпілсе — другім па велічыні горадзе Латвіі — пражывала каля 105 тысяч жыхароў. Цяпер крыху больш за 90 тысяч: многія, асабліва з ліку моладзі, падаліся ў краіны Заходняй Еўропы — хто на вучобу, хто на заробкі... Сярод мігрантаў нямала і этнічных беларусаў, якія ў статусе грамадзян Латвійскай Рэспублікі. І ўсё ж абсалютная большасць беларусаў па-ранейшаму жыве на берагах паўнаводнай ракі, якая для латышоў — Даўгава, а для нас — Заходняя Дзвіна...*

*Як пачуваюцца нашы ў старадаўняй Латгаліі — краі, які разам з усёй Латвіяй увайшоў у склад Еўрасаюза? Ці ўпісаліся латышскія беларусы ў новую сістэму грамадзянскіх каардынат, ці захавалі сваю самабытнасць, ці не забыліся на свае карані і ці не адцураліся мовы сваёй?.. Барыс Іваноў — першы беларус, з якім давялося сустрэцца ў Даўгаўпілсе і весці гаворку пра нашых у Еўропе. Ён — старшыня Рады Беларускага культурна-асветнага таварыства "Уздым" горада Даўгаўпілса...*



**— Дык колькі ж беларусаў на сёння ў другім па велічыні горадзе Латвіі? — пытаюся ў спадара Барыса.**

— Блізу 10 працэнтаў ад усіх гараджан, — кажа ён, — але гэта па афіцыйнай версіі гарадской Думы. Па маёй жа — значна больш... Статыстыку цяжка адсачыць, бо з уваходам у Еўрасаюз пачалася немаленькая міграцыя: адны з'язджаюць на Захад, іншыя вяртаюцца; адны — грамадзяне Латвіі, іншыя — усё яшчэ неграмадзяне... Карацей кажучы, такі броўнаўскі рух, часам хаатычны, але ад таго Беларускае культурна-асветнае таварыства мала што страціла. І потым, варта ведаць, што наша дыяспара падзяляецца як бы на дзве катэгорыі: на тых, хто жыў тут спрадвеку, і тых, хто пасяліўся ў краі і ў самім Даўгаўпілсе ў 50-х, 60-х гадах мінулага стагоддзя — так званая другая міграцыйная хваля. Яна накаціла з развіццём прамысловасці ў пасляваенны час. А вось самая трывалая, так бы мовіць, беларуская супольнасць была ў горадзе і пусціла моцныя карані надалей у 1920-я гады. Тут паўсюль адчувалася беларускасць. Толькі адзін прыклад: Дзяржаўная беларуская гімназія, а яна дзейнічала з 1922-га па 1935 год, была самай прэстыжнай навучальнай установай у горадзе. Дадайце сюды іншыя школы ды бібліятэкі беларускія, тэатральныя гурты, розныя студыі... Тут жыла і працавала Паўліна Мядзёлка, тут нарадзіўся (1893) вядомы дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Канстанцін Езавітаў — публіцыст, перакладчык, гісторык, генерал-маёр (1920). Спадар Езавітаў у сакавіку 1918 года ўдзельнічаў у абвяшчэнні БНР, уваходзіў у склад яе Рады, быў народным сакратаром ваенных спраў у першым урадзе БНР. Увогуле, Даўгаўпілс быў і застаецца горадам шматнацыянальным і шматканфесійным: тут і латышы, і палякі, і літоўцы, і расіяне, і яўрэі, і ўкраінцы... Нашых даволі шмат. Пераважна гэта выхадцы з памежных раёнаў — Глыбоччыны, Пастаўшчыны, Браслаўшчыны, Міёршчыны, іншых рэгіёнаў.

**— Што ўяўляе беларускае культурна-асветнае таварыства "Уздым" зараз? Наколькі цесныя ў вас стасункі з гарадскімі ўладамі?**

— Па-першае, як утварылася незалежная Латвійская Рэспубліка, то мы мусілі неяк самаідэнтыфікавацца, бо — вы ж ведаеце — далёка не ўсе жыхары Латвіі аўтаматычна сталі яе грамадзянамі. З'явіліся так званыя неграмадзяне... Балючая тэма для шмат якіх людзей, але што зробіш — маленькая краіна мела поўнае права мацаваць сваю тытульную нацыю. Пачалося адраджэнне не толькі латышскае, але і ўсіх нацыянальных меншасцяў, якія тут пражывалі. Натуральна, беларусы таксама ўспомнілі, хто яны... Спачатку ўзнікалі розныя культурныя суполкі кшталту фальклорнага гурта "Купалінка", потым — у 1998 годзе — утварыўся ўжо Цэнтр беларускай культуры. Дарэчы, цэнтр гэты — муніцыпальная ўстанова пры гарадскім Дэпартаменце культуры. Наш ЦБК фінансуецца з гарадскога бюджэту — штогод атрымліваем на сваё развіццё звыш 25 тысяч латаў, гэта 50 тыс. долараў у эквіваленце. У нас сваё памяшканне, офіс... Да слова, улады — наша гарадское самакіраванне — не тое што не перашкаджаюць, а наадварот — усяляк спрыяюць культурніцкай дзейнасці розных нацыянальных меншасцяў, уключаючы беларускую. І за тое ім — вялікі дзякуй!

**— Спадар Барыс, да вас у Цэнтр прыходзяць розныя людзі, якіх аб'ядноўвае адно — яны ўсе беларусы... У чым гэта праяўляецца?**

— Ведаеце, у звычайным, паўсядзённым жыцці мы — грамадзяне Латвіі. Можа, і не ўсе пакуль, але такімі сябе адчуваем. А яднае ўсіх, як вы кажаце, прыналежнасць кожнага да нашай крэўнай беларускай культуры. Проста так атрымалася, што жывём мы па гэты бок ад Браслава. Родная песня, паэзія, слова, пачутае ад маці ў маленстве, — гэта да скону, дзе б ты ні жыў і чым ні займаўся. У нас і свая тэатральная студыя, і фальклорныя гурты, і літаратурная суполка. Кожны можа знайсці свой інтарэс у нашым "Уздыме"...

**— Цікава, на якой мове размаўляюць латышскія беларусы ў паўсядзённым жыцці? Ці ўсе валодаюць мовай тытульнай нацыі — латышскай?..**

— Не ўсе, канечне, валодаюць латышскай свабодна, але пераважная большасць — даволі няблага. У паўсядзённасці, праўда, пераважае руская мова — горад жа амаль рускамоўны. Так склалася гістарычна, што Латгалія была населена рускамоўнымі людзьмі. Гэта асобная тэма, таму не будзем засяроджвацца. Мушу толькі заўважыць, што латгальская мова нечым адрозніваецца ад латышскай. І культура латгальцаў багатая і разнастайная, і свае традыцыі пераходзяць з пакалення ў пакаленне. Што ж адносна латышскіх беларусаў, то яны размаўляюць па-рознаму — хто па-расійску, хто па-беларуску, хто па-латышску... Некаторыя — і ў сям'і, дома — размаўляюць толькі на роднай мове — па-беларуску. Напрыклад, наш вядомы паэт Станіслаў Валодзька і ягоная сям'я размаўляюць выключна на роднай мове. І не толькі гэтая сям'я, шмат якія беларусы таксама. Ведаеце, галоўнае не тое, што ты па пашпарце беларус, галоўнае — адчуваць сябе беларусам. А ўвогуле, скажу я вам, усе, хто звязаны з Цэнтрам беларускай культуры, свабодна гавораць на матчынай мове. Бывае, на трасянцы, з дыялектычнымі адхіленнямі, але ніхто на тым не зацыкліваецца. Вось прыязджаюць на нашы святы, на фестывалі, якія мы ладзім у Даўгаўпілсе, нашы суайчыннікі з таго ж Браслава ці Шаркоўшчыны. І што вы думаеце? Спяваюць нашы беларускія песні, танчаць, а як пачынаем з імі размаўляць па-беларуску, то проста ніякавеюць: адвучыліся на радзіме гаварыць на роднай мове. Самі з таго дзівяцца: латышскія беларусы лепей гавораць па-беларуску, чым карэнныя беларусы на Беларусі. Неяк прыкра робіцца...

**— Барыс, ці выдае цэнтр сваю беларускую газету?**

— Хацелі б, але на гэтую справу не хапае сродкаў... Раней некаторыя гарадскія выданні змяшчалі на сваіх старонках літаратурныя творы, і была-такі магчымасць друкавацца беларускамоўнаму брату. Але пасля рэдакцыі перапынілі гэтую практыку, дакладней, запатрабавалі ад нас пэўнай платы. Тым не менш не губляем надзеі. Цяпер, напрыклад, на ўсю моц ідзе работа па стварэнні свайго сайта ў інтэрнэце. Домен ужо зарэгістравалі, так што ўсё ў нас атрымаецца.

**— Яшчэ адно пытанне... Прабыўшы ўсяго дзень у Даўгаўпілсе, я сустрэў траіх чалавек, у якіх прозвішча Іваноў... Не вельмі беларускае... І ваша таксама Іваноў, а размаўляеце па-беларуску так, быццам ніколі з Беларусі не выязджалі. Можа, гэта проста супадзенне, ці рускамоўе тут адпавядае колькасці расіян?**

— Не паверыце, але і я па пашпарце — рускі... Мой прадзед, дзед — руская. Са старавераў. А вось матуля — беларуска, з Магілёўшчыны. Дарэчы, староверы, іхныя нашчадкі атрымалі латвійскае грамадзянства без усялякіх іспытаў на веданне мовы, гісторыі і культуры Латвіі — аўтаматычна. Тут вялікая павага да іх. Зноў жа — важна не тое, які ў цябе там пашпарт; важна — кім ты сябе пачуваеш. У наш век міграцыя — звыклая справа. Мой сын Дзмітрый, напрыклад, жыве ў ЗША, абараніў там доктарскую дысертацыю, дачка таксама ў ЗША — працуе ў "Майкрасофце"... Але абодва лічаць сябе беларусамі. Чаму? Такое выхаванне, відаць, такая павага да крэўнага, да роднага. Беларускасць — яна і ў Амерыцы беларускасць, калі ты ад яе не адрокся... Каб вы ведалі, у нашай дыяспары ёсць верш, напісаны старэйшай паэткай Анастасіяй Сазанковай. Дык вось, да гэтага верша напісана музыка Аляксандра Рудзя. У выніку атрымаўся гімн нашай дыяспары, які ведаюць і спяваюць многія латышскія беларусы. Услухайцеся:

*Розных родных мясцін, мы не горкаю гронкай.*
*Разам тут у жыцці, дзе пад сонцам і поўняй*
*Помнім мы — скуль наш род,*
*Толькі з намі ён поўны — Беларускі народ.*
*Беларусь паглядае, як жа тут мы жывём.*
*Нас збірае, яднае беларускі наш дом.*
*Дзе нам хораша ў працы і ў бяседзе падчас.*
*Хай жа свеціцца радасць у Айчыны вачах.*




**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

*Мінск—Даўгаўпілс.*

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Кто такой Виктор Маючий?

*Где-то краем глаза заметил информацию о том, что телеканал "Беларусь-3", который вот-вот планирует запустить Белтелерадиокомпания, возглавил (или возглавит) Виктор Маючий. Мне имя этого чиновника совершенно ни о чем не говорит. Расскажите, пожалуйста, о нем подробнее: где работал раньше, чем прославился? Все-таки интересно знать, кто, возможно, будет во главе канала...*

***Игорь СЛАВИНИЧ, Минск.***

Про Виктора Маючего известно немного. До недавнего времени он работал в Министерстве информации заместителем начальника управления электронных средств массовой информации. В 2010 году Маючий публиковался в журнале "Белорусская думка" с материалом *"ТВ в белорусском медиаландшафте"* — тогда он работал в Информационно-аналитическом центре при Администрации президента, возглавлял отдел мониторинговых и оперативных социологических исследований. Кстати, вот короткая биографическая справка о нем: *"Родился в Гомеле. В 1983 году окончил историко-филологический факультет Гомельского государственного университета, в 2005 году — Международную академию менеджмента.*



*С 1985-го по 2006 год работал на различных творческих и административных должностях в структурах Гостелерадио БССР, впоследствии —Национальной государственной телерадиокомпании Республики Беларусь.*

*Действительный член Евразийской академии телевидения и радио.*

*Сфера научных интересов: деятельность средств массовой информации в условиях развития новых технологий в сфере коммуникации".*

Известно, что Маючий некоторое время был председателем Гомельского областного телерадиообъединения, позднее — генеральным продюсером международного телеканала "Беларусь-ТВ" (в этом качестве Маючий стал одним из победителей российского конкурса "Менеджер года — 2004").

Однако все это — скупой набор сухих фактов. "Народная Воля" обратилась к Виктору Владимировичу с просьбой уточнить некоторые детали биографии — все-таки он не суперизвестный чиновник, о котором полным-полно разных фактов в интернете. Маючий ни уточнять детали своей биографии, ни делиться новыми не стал, порекомендовав обратиться в пресс-службу Белтелерадиокомпании или в крайнем случае ввести в поисковик его фамилию. Отметив, что у него совещание, Маючий сказал: *"Интимные подробности своей биографии я вам рассказывать не буду, все, что есть в Интернете, — пожалуйста, используйте".*

Однако интернет — не всегда самый достоверный источник информации...

*"Официально направьте запрос в компанию, и официально компания вам даст ответ",* — отреагировал чиновник. На реплику о том, что хотелось бы получить информацию более оперативно, ведь на составление запроса и ожидание ответа уйдет немало времени, Маючий заметил: "*Я всегда говорил, что журналистика и пожарная команда — это несколько разные вещи. А вы продолжаете работать по принципу пожарной команды... Несмотря на большое уважение к газете, будьте добры, сделайте запрос в отдел кадров".*

Уже не раз говорилось о том, что процесс общения журналистов и чиновников должен быть максимально дебюрократизирован, однако иногда спотыкаешься даже на самых элементарных вопросах...

**Марина КОКТЫШ.**

## *Павучымся ва ўкраінцаў!*

Чытаю справаздачу беларускага журналіста з украінскіх парламенцкіх выбараў: *"На кожным участку галасы старанна лічаць і пералічваюць. Украіна — не Беларусь. Тут экзітпулы можа праводзіць любая сацыялагічная служба, назіральнікі літаральна вісяць над камісіямі, самі камісіі — усе да адной — складаюцца з прадстаўнікоў розных палітычных сіл, а апазіцыя вядзе законны паралельны падлік галасоў..."*

А ў нас? Галасы на большасці выбарчых участкаў лічылі так, што нават члены камісій не мелі ўяўлення пра канчатковыя вынікі. Кожны з іх меў стос бюлетэняў, уціхую праглядаў іх і нейкія лічбы на паперцы перадаваў старшыні альбо сакратару камісіі. Пра пералічванні і гаворкі не магло ісці.

У іх, украінцаў, бачыце, "назіральнікі літаральна вісяць над камісіямі", у нас — як кажуць, на гарматны выстрал не падпускаліся да сталоў, за якімі практыкаваліся члены камісій.

Колькі ні гаварылася пра тое, што камісіі павінны складацца з прадстаўнікоў розных палітычных сіл, — усё застаецца па-ранейшаму: мясцовыя ўлады фарміруюць іх так, як патрабуюць інтарэсы "Чырвонага дома".

Калі беларускае грамадства не даб'ецца карэнных змен у выбарчым заканадаўстве, то пра сапраўдны парламент можна і не ўзгадваць, а Лукашэнка будзе займаць пасаду прэзідэнта столькі, колькі яму захочацца.

**Сяргей ХАЛАДОВІЧ, выбаршчык.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ЛІСТАПАДА 2012 г.

ПАРАЛЕЛІ

# Еўропа дапаможа палякам захаваць старажытныя гарады

*Ці магчыма ў XXI стагоддзі не толькі захаваць, але і адбудаваць гістарычны цэнтр у беларускай сталіцы?*

*Колькі спрэчак, колькі "круглых сталоў" прысвечана гэтаму пытанню! Тым часам безгустоўнасць квітнее, а дыскусіі працягваюцца.*

*У чым праблема? У фінансах і адсутнасці прафесійных кадраў?*

*Каб адказаць на гэтае пытанне, абавязкова трэба пабываць у паўночным польскім горадзе Гданьску. 67 гадоў таму нашы гарады былі ў аднолькавым стане. Сёння ж яны палярна адрозніваюцца адзін ад аднаго...*





Пасляваенны Гданьск.

У свядомасці звычайнага абывацеля з назвай Гданьска звязаны як мінімум тры асацыяцыі. Першая — адсюль пачалася Другая сусветная вайна ў верасні 1939-га, калі вырашалася пытанне пра "Данцыгскі калідор".

Другая — менавіта тут забастоўкі рабочых у 1970, 1980 і 1988-м прывялі да канчатковага развалу сістэмы камунізму ў Польшчы. Лех Валенса ўзначаліў страйк на гданьскай суднаверфі, якая потым стала калыскай руху "Салідарнасць". Менавіта "Салідарнасць" стварыла тую расколіну, якая ў рэшце рэшт і прывяла да новай палітычнай мапы Еўропы.

Трэцяя — дзеянні рамана Нобелеўскага лаўрэата Гюнтэра Граса "Бляшаны барабан" адбываюцца ў Гданьску. Потым рэжысёр Фолькнер Шлендорф бліскуча яго экранізаваў і атрымаў за фільм "Залатую Пальмавую галіну".

Крыху з гісторыі Гданьска: яна вельмі заблытаная і цікавая, бо там перапляталіся цэлыя эпохі і культуры. Калі ж коратка, то тут жылі некалі кашубы, а цяпер іх няма. Фізічна яны, натуральна, ёсць, але няма прыкмет іх культуры. Былі крыжакі — засталіся толькі іх нешматлікія сляды. Потым тут была купецкая рэспубліка, пра якую Норман Дэвіс пісаў як пра нямецкую пярліну ў польскай кароне. А потым Гданьск заняла Прусія, і ніякіх слядоў ад рэспублікі не засталося. Потым падчас этнічных чыстак зніклі палякі і яўрэі, а праз некалькі гадоў і саміх немцаў не засталося. У 1945-м горад быў узяты савецкімі войскамі, і тэрыторыю Вольнага горада Данцыг перадалі Польшчы. З той пары горад называецца Гданьскам. У часы татальнай дэпартацыі нямецкага насельніцтва на захад іх былыя тэрыторыі засяляліся палякамі, у тым ліку тымі, якіх у сваю чаргу дэпартавалі з заходніх частак Беларусі і Украіны. У Гданьску пачала гучаць польская, руская і беларуская мовы...

Сёння, калі дабірацца з Варшавы ў Гданьск цягніком, то можна падумаць, што вы трапілі на нейкую глабальную будоўлю. На працягу ўсяго шляху, а гэта сотні кіламетраў, будуецца новая сучасная чыгунка. Дарагіх матэрыялаў не шкадуюць, і гэта кідаецца ў вочы. У горадзе таксама будаўніцтва ідзе поўным ходам. Пры гэтым Гданьск і знакаміты гістарычны цэнтр выглядаюць як добра захаваны старажытны горад. Але пасля вайны Гданьск быў як брат-блізнец Мінска — авіябомбы знішчылі амаль 80% будынкаў. Руіны і цэгла... Як жа палякам удаецца спалучаць сучаснае і мінулае такім чынам, што кожны бачыць горад з 1000-гадовай гісторыяй, са старажытнымі крэпасцямі, варотамі, млынамі?..

Калі ісці па самай доўгай і знакамітай вуліцы Гданьска, якую самі палякі называюць Длуга, то немагчыма пазбавіцца адчування, што горад усё ж больш нямецкі, чым польскі. Увесь час задаешся пытаннем: як палякі, якія змагаліся супраць немцаў, адстойваючы сваё права на горад, не толькі не знішчылі, а нават аднавілі архітэктуру і помнікі, якія раней належалі немцам?

Каб зразумець складанасць гэтага пытання, давайце толькі на імгненне ўявім сабе жнівень 1939-га і тагачасны Данцыг, які па Версальскім дагаворы з 1920 года меў статус Вольнага горада і падпарадкоўваўся Лізе Нацый. Крыху раней, у 1924-м, Польшча стварыла транзітны вайсковы склад на паўвыспе Вестэрплатэ (на поўначы Данцыга) і размясціла там невялікі гарнізон для яго аховы. Да Польшчы перайшло права карыстацца портам для экспарту і імпарту тавараў, а таксама арганізаваць сваю паштовую службу. Была створана Дырэкцыя пошт і тэлеграфаў 2-й Рэчы Паспалітай у Гданьску. Сёння гэта гонар палякаў — будынак на плошчы Яна Гавелія, які гараджане называюць "польская пошта". І ёсць за што. У жніўні 1939-га ў горадзе было неспакойна — мясцовыя штурмавікі СА, гітлерюгенда ды іншых груповак час ад часу здзяйснялі напады на пошту, выганялі палякаў з кватэр на вуліцу, здзекаваліся з іх сем'яў, чынілі бойкі ў кавярнях... Паштовыя скрыні з польскім гербам і надпісам "Толькі для лістоў у Польшчу" нацысты размалёўвалі чорна-бела-чырвонымі палосамі. У выніку польскія паштальёны вымушаны былі выходзіць у горад толькі па двое, а іх сем'і эвакуіравалі ў Польшчу. Польскі ўрад таемна пераслаў служачым пошты зброю. Але потым ён вырашыў адмовіцца ад вайсковай аперацыі ў Гданьску, толькі служачым пра гэта нічога не сказалі...

1 верасня 1939 года немцы абвясцілі аб уключэнні Данцыга ў склад рэйха і пачалі ліквідацыю ўсіх польскіх інстытутаў. Вайсковы склад і пошта сталі іх першымі аб'ектамі ў Другой сусветнай вайне. Каля 4000 падрыхтаваных салдат штурмавалі будынак пошты, у якім некалькі гадзін супраціўляліся 57 служачых...

На Длугай дробны дождж і халодны вецер. Турыстаў няшмат. Убачыла мужчыну сталага веку. Торба з прадуктамі выдавала ў ім мясцовага жыхара. Спытала, ці памятае ён Гданьск пасляваенным. Мужчына ахвотна прадставіўся панам Яцакам і распавёў, што прыехаў у Гданьск у 1954-м маладым інжынерам.

*— Пасля вайны палякі неахвотна засяляліся ў адноўленыя дамы. Тады часта можна было пачуць, што "ўсё роўна вернуцца немцы і забяруць свой Данцыг". Ніхто тады да канца не верыў, што 700-гадовая цяжба за горад скончылася. Горад быў у руінах. Вы не ўяўляеце, як выглядаў цэнтр. Яго ж бамбілі і бамбілі. Тое, што вы цяпер тут бачыце, гэта ж не тыя старажытныя дамы, а іх "копіі", аднаўленыя потым па фотаздымках. Дзе сцены захаваліся, дзе частка фасада... Нават вокны і ўсю тую ляпніну аднаўлялі такімі, якімі яны былі раней. Не ўсе дамы, канешне, некаторыя імправізаваныя атрымаліся, але яны адпавядаюць кантэксту і выглядаюць, нібы так некалі і было. Сапраўды, мы, палякі, не маем ніякага культурнага дачынення да тых нямецкіх будынкаў, але замест адрыньвання чужой культурнай спадчыны мы абралі шлях яе "нацыяналізацыі", і цяпер мы лічым ганзейскую архітэктуру часткай сваёй гісторыі. Натуральна, былі і іншыя меркаванні. Але я лічу, што гэта самае правільнае, што можна было зрабіць.*

У гістарычным цэнтры Гданьска знаходзіцца аддзел па кансервацыі і рэстаўрацыі гістарычных і архітэктурных помнікаў Гданьска. Загадчыца аддзела Люцына Равітэньска распавяла:

*— Гістарычны цэнтр аднаўляецца і па сённяшні дзень. Сродкі для гэтага паступаюць ад прыватных фірмаў і ад адмысловых фондаў Еўрапейскага Саюза. Прыняты спецыяльныя праграмы, і ў рамках гэтых праграм распрацоўваюцца праекты па аднаўленні таго ці іншага будынка, нават комплексаў будынкаў. Вы бачыце фасад старажытнага тыповага ганзейскага дома, а за ім сучасны будынак, пабудаваны па новых тэхналогіях, з сучасным абсталяваннем. Усё гэта аздоблена старажытнымі аксесуарамі. Гэта могуць быць элементы чыгуннага ліцця, нейкія цагліны, элементы лесвіц. Для таго каб распрацаваць той ці іншы праект, вывучаецца шэраг пытанняў. Для аднаўлення выкарыстоўваюцца старыя фотаздымкі, а калі гэта немагчыма, то гравюры і г.д. У нас праводзяцца конкурсы. У іх удзельнічаюць нават студэнты мастацкай акадэміі. Усё гэта на карысць гараджан, і вы самі бачыце, якая гэта прыгажосць. Працы шмат, і шмат чаго яшчэ трэба зрабіць. Самае галоўнае для нашых архітэктараў — гэта распрацоўка такіх праектаў, каб новае сучаснае будаўніцтва цалкам адпавядала гарадскому кантэксту і лагічна ўпісвалася ў гарадскі ландшафт. Усе знакі пра накірункі дарог і г.д. узгадняюцца з галоўным архітэктарам. Даводзіцца вырашаць цэлы комплекс пытанняў. Сярод іх такія на першы погляд звычайныя, як паркоўкі для аўтамабіляў, месцы для адпачынку, зялёныя зоны, смецце і г.д. Але без вырашэння гэтых пытанняў немагчыма захаваць каларыт горада.*

***— Ці была спакуса зраўняць старое з зямлёй і пабудаваць новае, каб сэканоміць?***

*— Насамрэч, гэта зусім не танней. Галоўнае зрабіць праект і ўлічыць усе моманты. Канешне, калі зрабіць вялікую пляцоўку і пачаць з нуля, то зручней працаваць, але можна зрабіць умовы, прымальныя на любым аб'екце. Трэба толькі гэтым заняцца.*

Накіроўваюся на самую высокую кропку Гданьска — недалёка ад цэнтральнага вакзала знаходзіцца старажытная крэпасць — цяпер гэта называецца парк фартыфікацый Twierdza Gdansk. Дарога выкладзена няроўным брукам. Некалькі стагоддзяў таму па ёй рухаліся абаронцы горада. Адтуль Гданьск як на далоні. На самым версе ўражвае крэпасць з байніцамі. Цікава, што яе дах некалі быў засыпаны зямлёй. З цягам часу ён месцамі праваліўся, а нядаўна рэстаўратары яго аднавілі. Для гэтага трэба было дах цалкам разабраць, пабудаваць новы, засыпаць яго зямлёй і пасадзіць на ім газон. Незразумела, як на самым версе размясцілася сучасная тэхніка. Штодня на гэтую гару, дакладней, на яе палову, пехам ходзяць на працу супрацоўнікі яшчэ аднаго аддзела — таго, што адказвае за працу ўсіх музеяў гістарычнага Гданьска. Кіраўнік аддзела па арганізацыі выставак Дарота Цэлінска кажа, што яна ўжо прызвычаілася, маўляў, потым з гары лёгка спускацца. Дарота распавяла, што супрацоўнікам аддзела работы таксама хапае:

*— Усе нашы праекты па кансервацыі аб'ектаў у асноўным фінансуюцца фондамі Еўрапейскага Саюза. Аб'ектаў шмат, і некаторыя з іх цяпер перажываюць не лепшыя часы. У адрэстаўраваных будынках робяцца цікавыя экспазіцыі пра старажытны ўклад, рамёствы і г.д. Але ёсць аб'екты, якія трэба закансерваваць, каб мы іх не страцілі зусім. Потым да іх можна будзе вярнуцца і адрэстаўраваць як трэба. Усе гэтыя збудаванні прастаялі сотні гадоў. Марское паветра, вецер, снег і лёд з цягам часу зрабілі сваю справу. Гэта натуральны працэс. Але добра, што цяпер уся еўрапейская супольнасць займаецца нашымі пытаннямі і дапамагае нам. Калі б гэтага не было, то шмат якія помнікі мы страцілі б літаральна летась. Пагроза мінула, і нашы нашчадкі змогуць потым ганарыцца сваёй гістарычнай спадчынай. Няважна, да якой культурнай эпохі належыць той ці іншы аб'ект, галоўнае, што ён цяпер належыць усім нам, усяму свету.*

Калі бачыш сцены старажытнай крэпасці, якая выстаяла нават у часы бамбардзіровак, то разумееш, наколькі адказнымі былі нямецкія будаўнікі. Яшчэ адна мая суразмоўца, выпускніца экалагічнага факультэта Гданьскага ўніверсітэта Святлана Панкавец вучыцца ў дактарантуры. Яны распавяла, што падпрацоўвала летась у адной арганізацыі кшталту нашай санстанцыі.

*— Мы набіралі ў прабіркі ваду на аналіз. Дык вось там на адным канале быў пабудаваны немцамі адмысловы аб'ект, які ў тых выпадках, калі дажджы пагражалі гораду затапленнем, выконваў функцыю размеркавання патокаў. І ён працуе да нашых дзён. Палякі летась вырашылі яго аднавіць — знялі чарапіцу і паклалі нейкую сучасную. У выніку яна не вытрымала, і сёлета вясной яе месцамі пазрывала. Дык узялі і паклалі замест яе старую, якая была раней. І што вы думаеце? Трымаецца, не злятае. Трэба пазнаць тэхналогіі, якія ўжывалі майстры XVII стагоддзя.*

У размовах з рэстаўратарамі і архітэктарамі высветлілася, што старажытны твар горада аднавіць не так цяжка. І справа тут зусім не ў фінансаванні. Патрабуецца зусім няшмат — любіць і паважаць тое, што было створана задоўга да нас.

**Любоў ЛУНЁВА.**

*Мінск—Гданьск—Мінск.*



Так выглядае Гданьск сёння.

ЭЎРЫКА!

## Як падоўжыць жыццё?

Даследаванні правялі іспанскія навукоўцы. Яны назіралі за фізіялогіяй мышэй на генетычным узроўні, асаблівую ўвагу звяртаючы на даўжыню целамераў і час, за які яны скарачаюцца.

Целамеры — гэта складнікі храмасом. Кожная храмасома мае на абодвух канцах па адным целамеры (у кожнай чалавечай клетцы знаходзіцца ў суме 92 целамеры).

Даследчыкі заўважылі прамую сувязь паміж даўжынёй целамера і часам, які аддзяляе арганізм ад смерці.

Гэтае адкрыццё дае новыя магчымасці для даследавання працэсаў старэння арганізма, а таксама шляхоў падаўжэння жыцця. Іспанскія даследчыкі цяпер будуць засяроджвацца на тым, як лад жыцця ўплывае на працэс скарачэння целамераў, што паскарае гэты працэс, а што яго запавольвае. Фактары, якія могуць апынуцца ў цэнтры ўвагі навукоўцаў, — гэта дыета, нікацін, алкаголь, фізічная актыўнасць. Усе вопыты будуць праводзіцца толькі на мышах. Што да людзей, то каб атрымаць верагодныя даныя, даследаванні трэба было б праводзіць ад нараджэння да смерці, а гэта значыць, што такі эксперымент доўжыўся б амаль 100 гадоў.

ФОТООКНО



## За углубление сотрудничества!

Канцлер ФРГ Ангела Меркель и президент России Владимир Путин заявили, что они видят большие возможности для дальнейшего развития германо-российского сотрудничества в сфере экономики. "Я полностью разделяю мнение президента Путина о том, что у нас большой потенциал для совместного развития", — заявила Меркель на торжественном заседании в Берлине по случаю 60-летия создания Восточного комитета немецкой экономики, сообщает агентство Reuters.

Ранее Владимир Путин в видеообращении к участникам заседания констатировал, что экономики России и ФРГ "дополняют друг друга" и "ориентированы на новые капиталовложения, производственную кооперацию в высокотехнологичных и наукоемких отраслях".

КОРОТКО

## Обама или Ромни?

В США выборы президента. Рейтинги Обамы и Ромни сравнялись на отметке 48%, и аналитики не берутся предсказать исход голосования.

Вторник после первого понедельника ноября был установлен в качестве дня президентских выборов в 1845 году. Почему? Суббота тогда была рабочим днем, воскресенье — днем посещения церкви, а среда была базарным днем... Оставался только вторник.

В ходе дебатов президент часто использовал такой жест. Чтобы подчеркнуть важность своих слов, он делал выпад в сторону соперника рукой с большим пальцем как бы лежащим на ладони, сжатой в некрепкий кулак. Говорят, Обама был специально обучен этому жесту, который может показаться неестественным в обычном общении. И сделано это было, по словам Патти Вуд, специалиста в области жестикуляции, чтобы Обама выглядел сильнее и решительнее. Поможет ли ему этот жест?

## Сирия: взрыв в Дамаске, бои в Алеппо

Мощный взрыв прогремел в воскресенье в центре сирийской столицы Дамаска, недалеко от здания местного профсоюза и гостиницы "Дама роз". По меньшей мере 11 человек получили ранения. Бомба взорвалась рядом с хорошо охраняемыми военными объектами правительственных сил.

Тем временем в Алеппо, в 330 километрах к северу от Дамаска, сирийская армия ведет ожесточенные бои с вооруженными повстанцами. Крупнейший город страны практически превратился в руины.

Ряд информационных агентств сообщает о захвате боевиками крупного нефтепромысла в восточной провинции Дейр-эз-Зор.

С марта 2011 года жертвами насилия в стране, по данным ООН, стали порядка 30 тысяч человек.

## Дочь облили кислотой за то, что она смотрела на юношу

Семейная пара была арестована на территории Кашмира, находящейся под контролем Пакистана. Их дочь Ануша была найдена с сильнейшими ожогами. По версии следствия, родители облили дочь кислотой. По словам отца, она была наказана за то, что смотрела на юношу; по словам матери, их дочери было суждено умереть от рук родителей.

В Пакистане ежегодно от рук родственников гибнут десятки женщин и девочек. Как правило, поводом к убийству становятся аналогичные "проступки".

## Говорящий слон

Слон, живущий в одном из зоопарков Южной Кореи, впечатлил ученых своими языковыми познаниями.Азиатский слон по имени Кошик научился подражать речи своих смотрителей, выговаривая слова "привет", "садись" и "хорошо".

## Самое высокое здание Европы находится в Москве

После шестилетнего строительства "Москва-Сити" представляет самое высокое здание Европы — "Меркурий Сити Тауэр", пишет немецкое издание Financial Times. Его высота — 338 метров. Таким образом, рекорд лондонского небоскреба "Осколок", представленного этим летом и достигающего 310 метров в высоту, побит.

Издание пишет, что полезная площадь "Меркурий Сити Тауэра" составляет 174 тыс. квадратных метров. На 40 этажах располагаются офисные и торговые помещения, а на верхних этажах — апартаменты класса "люкс".

По данным издания, "Меркурий Сити Тауэр" вскоре может утратить титул самого высокого здания: в следующем году должна быть достроена восточная башня комплекса "Федерация", которая достигнет 360 метров, а в Санкт-Петербурге планируется сооружение новой штаб-квартиры "Газпрома" высотой более 400 метров.

## Найдены доказательства жизни после смерти?

Как выглядит жизнь после смерти и есть ли она вообще? Над этим вопросом, кажется, размышляют все: от маленьких детей до серьезных ученых и теологов. Доктор Стюарт Хамерофф из университета Аризоны солидарен с теми, кто считает, что после смерти человека его сознание не исчезает бесследно, сообщает Zee News.

Согласно теории американского анестезиолога, человеческая душа бессмертна, а загробная жизнь существует. Он называет людей "квантовыми компьютерами", главной программой которых является сознание. После смерти квантовые частицы, из которых состоит душа, покидают тело и отправляются в космос, навечно становясь частью Вселенной, считает Стюарт Хамерофф.

## Северная Корея собралась достроить «отель невезения»

Отель "Рюгён" в Пхеньяне строится уже больше четверти века.

105-этажная пхеньянская гостиница "Рюгён", строительство которой началось в 1987 году, может быть достроена в 2013 году.

Гостиницу, имеющую форму огромной пирамиды, на Западе уже давно прозвали "отелем невезения". Рето Виттвер, исполнительный директор группы компаний Kempinski, которая будет управлять отелем "Рюгён", заявил, что постояльцам гостиницы будет отведено всего 150 номеров на верхних этажах здания. Остальные этажи, по его словам, будут заняты магазинами, ресторанами и офисами.

Строительство "Рюгён" планировалось закончить еще в 1989 году, в преддверии XII Всемирного фестиваля молодежи и студентов. Однако в 1992 году строительство было прекращено из-за того, что в Северной Корее начался экономический кризис.

## В России собрали менее 80 миллионов тонн зерна

По состоянию на 26 октября зерновые и зерно-бобовые культуры в Российской Федерации были обмолочены с 38,4 млн га (98 процентов уборочной площади).

Валовой сбор на эту дату составлял 72,2 млн тонн зерна (в 2011 году — 95,4 млн тонн, в 2010-м — 62,6 млн тонн). Урожайность составляет 18,8 ц/га (в 2011 году — 23,1 ц/га, в 2010-м — 19 ц/га).

ТАМ, ГДЕ ДЕМОКРАТИЯ

## Давление на прессу губительно для немецких политиков

*Мировой опыт показывает: без свободы печати невозможно нормальное развитие страны. Там, где затыкают рот прессе, где она состоит на службе у чиновников, расцветает коррупция и происходит загнивание общества. Поэтому в Германии не прощают давления на прессу, откуда бы оно ни исходило.*

26 октября исполнилось 50 лет знаковому событию в истории немецкой журналистики — попытке обвинить сотрудников еженедельника Der Spiege в государственной измене за критическую публикацию о бундесвере. Скандал закончился оправданием журналистов и отставкой тогдашнего министра обороны ФРГ Франца-Йозефа Штрауса. И спустя полвека немецкие политики иногда пытаются давить на прессу, что, как правило, кончается для них плачевно.

25 октября подал в отставку пресс-секретарь правящего в Баварии Христианско-социального союза (ХСС) Ханс Михаэль Штрепп. Он попытался оказать давление на журналистов телеканала ZDF.

Причиной скандала, который и привел в итоге к отставке Штреппа, стал его звонок в редакцию новостей общественно-правового телеканала ZDF. Пресс-секретарь якобы хотел узнать, будет ли в программе репортаж со съезда земельной организации Социал-демократической партии Германии — политического соперника ХСС. Но журналисты расценили звонок как попытку оказать на них давление. В СМИ поднялся шум, оппозиция не замедлила дать собственную критическую оценку действиям Ханса Михаэля Штреппа, после чего у него не осталось иного выхода, кроме как подать в отставку.

Конфликтных прецедентов в отношениях между политиками и журналистами в Германии предостаточно. В большинстве случаев они заканчивались крахом карьеры политиков. Но, очевидно, соблазн использовать СМИ в своих целях так велик, что политики постоянно наступают на одни и те же грабли.

Бульварная Bild отправила в отставку даже президента Германии, о чем немецкая общественность помнит до сих пор. Вульф поддерживал теплые отношения с редакцией самой массовой газеты страны Bild. Интерес был обоюдным. Издание получало эксклюзивные интервью и репортажи о жизни президента, президент повышал свою популярность.

Но вот газета решила опубликовать критический материал о Вульфе и его супруге. И президент позвонил в редакцию. Он угрожал и требовал отложить публикацию. А поскольку главного редактора на месте не было, все тирады были записаны на автоответчик.

Как ни оправдывался президент, практически все СМИ тут же начали под микроскопом рассматривать его политическую карьеру. Скандал длился чуть дольше трех месяцев. 17 февраля 2012 года Кристиан Вульф вынужден был подать в отставку. Журналисты в Германии покушений на свою независимость не прощают. И в этом сила страны. Здесь все хорошо понимают: будет свобода СМИ — будет нормальное развитие страны, будут честно работать все ветви власти. Там же, где затыкают рот прессе, где она состоит на службе у чиновников, расцветает коррупция и происходит загнивание общества.

**Алесь ДРАБЧУК.**



## Прамень надзеі

**Егіпецкі камерны аркестр, які складаецца са сляпых музыкантаў, крытыкі назвалі промнем святла і надзеі.**

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Белорус стал вожаком стаи волков и принимает группы экотуристов

*“Когда я выпущу волка, главное — не отходите далеко, — говорит Дима, кроша топором замерзшие говяжьи трахеи. — Мои волчки при людях росли с двухнедельного возраста, поэтому воспринимают вас как волков, новых членов стаи. А как выяснить, какое место вы занимаете в иерархии? Правильно, выяснить это можно только зубами. Пока вожак, то есть я, этого не позволяет, они будут мирными. Да и мясо у меня — волку не до вас... Ну что, готовы? — Дима подходит к вольеру и слегка приоткрывает зарешеченную дверь. — Поехали!”*

## Стая

Россонский район, окраина Беларуси, население 3—4 человека на квадратный километр — короче говоря, медвежий угол. Самое глухое место здесь — ландшафтный заказник “Красный бор”: озера, болота, леса. Рядом с заказником полупустые деревни, на три обветшалых, разрушающихся дома один целый. В одной из таких деревень на отшибе возле реки живет биолог Дмитрий Шамович.

Вот уже который год в его большой деревянный дом регулярно наведываются гости со всего мира: немцы, французы, англичане, именитые фотографы, режиссеры документального и художественного кино. Люди стремятся сюда, чтобы понаблюдать за дикой природой. Дима с ней на короткой ноге. Например, у него во дворе живут волки.

Волки появились у Шамовича около 8 лет назад. Тогда он только перебрался в Россонский район, окончив аспирантуру Института зоологии НАН Беларуси, и рассчитывал заняться развитием экотуризма. На хуторе охотхозяйства, где жил Дима, прописались волк и медведь. Серый Тер был затейник еще тот: когда туристы теряли бдительность, он подкрадывался к ним и прикусывал за мягкое место. Больно не было, но страху многие натерпелись. Волк совсем перестал бояться людей, и это его погубило. Однажды он убежал, добрался до соседней деревни и начал там исследовать подворья. Естественно, зубастого застрелили.

Потом было еще пять волков. И у каждого своя судьба. После нескольких лет битья лбом в стену Дима Шамович понял, что ни о каком развитии экотуризма в организации, заинтересованной в первую очередь в развитии охоты, речи идти не может. Он решился отправиться на вольные хлеба, попросил отдать ему животных, все равно они никому нужны не были. Чтобы шибко умному биологу неповадно было, всех подопечных застрелили.

Но, видно, Шамовичу было суждено жить среди волков. Сегодня в вольере, расположенном рядом с домом, у него живут три серых: самцы Бой и Тер и самка Дая. Каждого он взял слепым волчонком, выходил и стал для них “семьей”.

Когда Дима подходит к вольеру, серые начинают беспокойно нарезать круги возле решетки. Шамович опускает на сетку руку, и волки затевают драку за право ее облизать. Бой практически сразу с рыком валит на землю спокойного Тера и зажимает его пасть зубами. Тер прижимает уши, терпит. Скулит. Но, как только более сильный волк его отпускает, вновь начинает бороться за место под взглядом вожака.

*“Волчки... волчки...”* — ласково приговаривает Дима, трепля косматые зубастые морды.

## Бизнес

На прогулку выпускают волка Тера, и даже не потому, что он самый смирный. Как только серый покидает вольер, он не отбегает далеко и приступает изучать двор. Двое оставшихся в вольере спокойно следят за членом стаи. Если бы выпустили Боя, Тер, оставшись без постоянно терроризирующего его товарища, разобрал бы по бревнышку вольер минут за десять. Вот такие странные отношения.

Когда Дима выпускает на свободу волка, дети, женщины и собаки запираются в доме. Просто так. На всякий случай.

— *Вообще, волчок — животина умная, сам он конфликтовать не полезет,* — рассказывает Шамович. — *Но фотографы разные бывают: помню, один увлекся, метров на пятьдесят от меня отошел, фотоаппаратом машет, голосит... До сих пор как живой перед глазами стоит...* (Мы медленно пятимся к двери дома.) *Да шучу я! Но, поверьте, страху этот товарищ натерпелся, когда волчок его на снег повалил и прижал слегка.*

**— Хоть раз, когда с волками гулял, у тебя возникала тревога за свою жизнь?**

— *Поверь, как только она появится, волчки сразу в расход пойдут,* — в голосе вожака волков нет ни тени сомнения.

Сегодня Дмитрий Шамович зарабатывает на жизнь тем, что принимает группы экотуристов. От желающих, как оказалось, отбоя нет. Многие иностранцы, оказывается, едут к нам не для того, чтобы париться в банях, пить водку и отстреливать по лесам живность, а чтобы... исследовать грибы в нетронутых белорусских лесах! Или чтобы часами, затаившись в небольшой палатке, ждать момента, когда поутру начнет токовать глухарь.

К своему бизнесу Дима подходит обстоятельно. Он зарегистрировал агроусадьбу и уже несколько лет строит гостевые комнаты на втором этаже. Все: от сантехники до малярных и столярных работ — делает своими руками. Строительную бригаду, нанятую из местных, он сразу разогнал: не терпит халтуры. Привозить строителей из Минска слишком накладно. Уже к следующему году будут закончены четыре комнаты. Каждая с отдельным санузлом и душевой кабиной.

*“На моей памяти уже были иностранцы, отказавшиеся поселиться в гостинице потому, что удобства там были не в номере, а в коридоре,* — поясняет свою чрезмерную заботу о клиенте Дима. — *Надо понимать, что европейцам надо предоставлять услуги европейского уровня”.*

О том, что взгляд на ведение туристического бизнеса у Дмитрия Шамовича соответствует действительности, говорит хотя бы то, что посещения групп, желающих провести время с вожаком волчьей стаи, расписаны на год вперед! Подавляющее количество стремящихся попасть сюда людей преследуют научный или околонаучный интерес, и лишь единицы приезжают из праздного любопытства...



Мы прогуливаемся с волком по окрестностям Диминой усадьбы. Со своим подопечным хозяин разговаривает: обучить волка приказам, в отличие от собаки, просто нереально: *“Он идет за нами, потому что мы сейчас — его стая. Мол, стая сюда пошла — и я пошел. А научить серого палку приносить или на задних лапах скакать у вас никогда не получится. Вы когда-нибудь волчка в цирке видели? То-то!”*

Вдалеке слышен протяжный непрекращающийся вой. Бой и Дая беспокоятся: куда подевался Тер с вожаком?



## Бесправные хищники

Слепых волчков Шамовичу предлагают практически каждый год. Бой и Тер как раз были принесены охотниками, нашедшими их в логове. Дая родом из Березинского биосферного заповедника.

*“Волчки в Беларуси — самые бесправные хищники,* — уверен Дима. — *Сезон охоты на них открыт всегда — бери вилы, убивай и получай награду”.*

Действительно, существует у нас в стране такой вид приработка — специалисты ходят по лесам, отыскивают волчьи логова и сдают слепых щенков поштучно на убой. И совершенно все равно, волчью ты шкуру принес или шкурку волчьего детеныша — награда будет твоей. Но иногда охотхозяйства прекращают выплачивать премии за волчьи жизни, и тогда этих щенков несут таким людям, как Дима.

*“Только не делайте из меня эдакого защитника природы,* — просит он, — *всех волков не спасешь, я это понимаю. Да и надо ли?..”*

Но глядя на то, как Дима общается со своей стаей, наблюдая, с какой готовностью и безмерным доверием матерые хищники ложатся перед своим вожаком-человеком, подставляя беззащитное пузо, понимаешь: если бы у Шамовича была на то возможность и власть, многие волчьи жизни были бы спасены.

*“Беда в том, что волки едят копытных животных, а те являются трофеями, за которые платят хорошие деньги. Нередко в валюте. Давайте называть вещи своими именами: человек просто объявил награду за голову конкурента,* — говорит Дима. — *Волк убивает свою жертву, рискуя жизнью, она необходима ему для пропитания. Какой-нибудь Ганс или Вульф, стоя на вышке с „оптикой” в руках, стреляет для развлечения и рискует разве что отморозить себе зад в ожидании, когда кабан подойдет к кормушке. Вот такая справедливость”.*

**Дмитрий КОРСАК.**
**Фото Максима МАЛИНОВСКОГО.**
*onliner.by*

ЧУЛІ?

## Дзяржава хоча зарабіць на МТС мільярд долараў

Турэцкі, казахскі і іншыя патэнцыяльныя інвестары выказваюць цікавасць да куплі дзяржаўнай долі акцый буйнейшага аперата сотавай сувязі краіны — СТАА “Мабільныя ТэлеСістэмы” (“МТС”), заявіў першы намеснік старшыні Дзяржкамітэта па маёмасці Сяргей Пяткоў. Але “пакуль у нас ідзе ўсё на стадыі перамоў”, удакладніў ён.

Магчыма, прычына ў цане, якую выставіў беларускі бок. Справа ў тым, што заяўленая ацэнка дзяржcдолі акцый складае 1 млрд долараў, яна праводзілася дзяржаўным Інстытутам нерухомасці і ацэнкі па стане на 1 чэрвеня 2010 года. “Новай пераацэнкі не плануецца”, — падкрэсліў прадстаўнік Дзяржкаммаёмасці. Але менавіта з-за цаны расійскі ААТ “МТС”, які з’яўляецца ўладальнікам астатніх 49% акцый СТАА “МТС”, не купіў дзяржпакет. Расіяне палічылі, што 1 мільярд долараў — гэта завышаная цана актыву. Трэба адзначыць, што, акрамя расіян, патэнцыяльных пакупнікоў нягуста, хіба што турэцкая кампанія “Турксел”.

Але беларускі бок, відаць па ўсім, здавацца не жадае і аб’явіў, што дата правядзення новага конкурсу па продажы дзярждолі “МТС” будзе вызначана пасля правядзення ў Мінску 15—16 лістапада Беларускага інвестыцыйнага форуму.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

## «Белтэлекам» тарыфы на інтэрнэт захавае

Генеральны дырэктар нацыянальнага аператара электрасувязі Сяргей Папкоў паведаміў, што да канца бягучага года “Белтэлекам” не будзе павышаць тарыфы на інтэрнэт. Разам з тым Папкоў не выключыў верагоднасці таго, што тарыфы на інтэрнэт павысяць некаторыя прыватныя інтэрнэт-правайдары.

У гэтым годзе “Белтэлекам” павышаў кошт паслуг перадачы даных у сакавіку. Тады тарыфы на доступ у інтэрнэт падаражэлі на 10 працэнтаў.

ЕСТЬ ВОПРОС

## Вернут ли в Республиканский дорожный фонд средства, полученные от платы за проезд по белорусским дорогам?

*Сейчас эти деньги перечисляются в республиканский бюджет, а оттуда только часть вырученных средств направляется на дорожные расходы, в том числе на содержание и ремонт дорог. С 1 июля 2013 года эта схема может измениться.*

Ежегодно 15—16 миллионов автомобилей пересекают четыре пункта сбора платы за проезд по трассе М-1. За проезд они платят по схеме: от одного пункта сбора до другого. Цена проезда между двумя пунктами составляет 3—15 евро в зависимости от вида транспортного средства.

С 1 июля 2013 года в Беларуси планируется ввести систему электронного сбора платы за проезд по дорогам. Основным инвестором и исполнителем проекта выступает австрийская компания Kapsch TrafficCom AG. Ее представители уверены: данная система оплаты даст еще больший приток валюты в Беларуси. Реализация проекта, конечно же, потребует денег — инвестиции составят 267 миллионов евро, но, по словам экспертов, уже через 3 года проект окупится.

— *После вступления в Таможенный союз Беларусь стала терять большое количество валютной выручки. Введение электронного сбора платы позволит получить приток иностранной валюты, которая собирается прежде всего с иностранных водителей и остается в Беларуси,* — объяснял журналистам управляющий директор компании Kapsch TrafficCom AG **Эрвин Топлак**. — *И это самые правильные деньги, поскольку иностранцы платят за то, что они используют здесь. Для белорусской экономики это однозначно позитивное явление.*

По словам Эрвина Топлака, электронная оплата предусматривает взимание денег за каждый километр, а коммерчески обоснованная задача — брать плату именно с грузовиков. С автомобилей стран Таможенного союза, кроме грузовиков массой свыше 3,5 тонны, плата взиматься не будет.

— *Такого потока грузовиков, как идет на Россию через Беларусь, нет нигде в Европе,* — поясняет он. — *Мы очень заинтересованы во внедрении взимания платы с этого вида транспорта.*

Безусловно, главный вопрос — куда будут направляться полученные средства (а это десятки миллионов долларов), после того как проект окупится? В республиканский бюджет, как сейчас, или в Республиканский дорожный фонд, как было раньше.

— *Возможно, стоит вернуться к старой схеме,* — считает профильный эксперт. — *У нас в настоящее время около 85% дорог с просроченными межремонтными сроками. В 2008 году капитальный ремонт был проведен на 500 км дорог, затем ежегодно ремонтировалось не более 60 километров. В России два года назад вернулись к тому, что средства от платы за проезд по дорогам стали вновь перечислять в дорожный фонд, и это позволяет улучшить качество дорог.*

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

АДУСЮЛЬ

## Вучыў уму-розуму за ўласныя грошы

*Кіроўца гродзенскай “хуткай” пазбавіўся грошай з-за таго, што занадта любіў павучаць свайго маладога калегу.*

Як высветлілі праваахоўнікі, 7 тысяч злотых кіроўца аўтамабіля недалічыўся з-за свайго напарніка. Той знайшоў барсетку з грашыма каля сядзення кіроўцы і не змог утрымацца — сцягнуў набытак. Злотыя малады чалавек памяняў на рублі, а затым — на долары. Барсетку ўтапіў у рацэ.

Як пазней прызнаваўся злачынца, грошы ён скраў таму, што пакрыўдзіўся на свайго калегу. Той часта бываў незадаволены станам службовай машыны пасля дзяжурстваў напарніка. Вось той і вырашыў адпомсціць, праўда, зрабіўшы горш толькі сабе.

## На канікулах не пашыкуеш

*У Магілёўскай вобласці на восеньскіх канікулах у школьных лагерах адпачнуць больш за 6 тысяч дзяцей. Дзённая датацыя на адно койка-месца — менш за 2 еўра.*

Традыцыйна падчас школьных канікул па ўсёй краіне працуюць дзіцячыя лагеры дзённага знаходжання. Сёлета ў Магілёўскай вобласці з 1 па 7 лістапада арганізавана больш за 200 лагераў дзённага знаходжання для вучняў 1—4 класаў. Дзяржава выдаткоўвае на ўтрыманне кожнага дзіцяці 18 тысяч 600 рублёў у суткі, частку грошай за адпачынак у лагеры плацяць бацькі. У лагеры малыя могуць заняцца творчасцю, падцягнуць некаторыя прадметы і навучыцца новаму за зусім несур’ёзныя грошы.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ВІЗІТ

## Мінск наведаў брытанскі вясляр Эндру Хэлсі, які ў адзіночку перасек Атлантычны акіян

*У Беларусь ён прыехаў па запрашэнні сяброў.*

Хэлсі зацікавіўся акіянам у дзяцінстве. *“Я прыходзіў дамоў са школы, спяшаўся да тэлевізара, каб глядзець навіны пра падарожнікаў, якія спрабавалі перасячы Атлантыку. Потым я ніяк не мог змірыцца, што яны зніклі ў акіяне”,* — сказаў брытанскі вясляр. Пасля школы Хэлсі працаваў мясніком, мулярам, прадаўцом, але заўсёды марыў пра мора.

У 1997 годзе Хэлсі ўзяў усяго адзін урок веславання, зрабіў некалькі трэніровачных заездаў па рацэ Мерсі і ў адзіночку перасек Атлантычны акіян ад Тэнерыфе да вострава Сент-Люсіі ў Вест-Індыі, пераадолеўшы 4800 км за 116 дзён. Двумя гадамі пазней ён адправіўся праз Ціхі акіян з Каліфорніі ў Аўстралію. Аднак з-за цяжкіх умоў надвор’я і недахопу ежы праз 267 дзён, праведзеных у моры, страціўшы 30 кг вагі, спыніў заплыў.

Сваё першае падарожжа Хэлсі ажыццявіў за асабістыя сродкі і дзякуючы падтрымцы сяброў. Для другога выкарыстоўваліся сродкі спонсараў. Пры гэтым многія з іх адмаўляліся ад удзелу ў праекце, калі давedваліся, што Хэлсі хварэе на эпілепсію, першы прыступ якой здарыўся ў яго ў 1982 годзе.

Гаворачы пра цяжкасці падарожжаў, брытанец адзначыў, што асабліва складана было арганізаваць сон: “*Я ўвесь час трапляў ва ўраган. Мяне нават называліУраганны Хэлсі. Часам даводзілася не спаць да 36 гадзін, з-за чаго блыталася свядомасць”.*

Пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі **Брус Бакнел** адзначыў, што расцэньвае прыезд Хэлсі ў Мінск як магчымасць для грамадзяніна Брытаніі дзяліцца вопытам жыцця не толькі ў сваёй краіне, але і ў свеце.

*“Мая цяперашняя дзейнасць заключаецца ў тым*, *што я стараюся даць людзям з інваліднасцю нейкую матывацыю, большую ўпэўненасць у сабе,* — растлумачыў Хэлсі. — *Дапамагчы зразумець, што неабавязкова хтосьці павінен быць пастаянна з вамі, вы павінны не імкнуцца шукаць у кагосьці дапамогі, а быць больш упэўненым у сабе, не быць скаваным хваробай”.*

Людзі з інваліднасцю могуць і павінны жыць не ў закрытым свеце, не выжываць, а рабіць тое, што хочуць, не будучы скаванымі хваробай, перакананы падарожнік.

Эндру Хэлсі адзначыў, што ў Беларусі яму вельмі камфортна. Падчас паездкі ён плануе наведаць адну з устаноў па рэабілітацыі інвалідаў.

**Алена СПАСЮК,**
**БелаПАН.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## 11 і 15 гадоў турмы

*Вынесены судовы прыгавор забойцам 13-гадовай Юлі Ляшук з вёскі Лядзец Столінскага раёна.*

Пра дзікае забойства сямікласніцы Лядзецкай сярэдняй школы на пачатку года пісалі літаральна ўсе СМІ. Юля Ляшук знікла ў навагоднюю ноч, пайшла з сяброўкай на дыскатэку і не вярнулася дамоў. Яе шукала ўся вёска, міліцыя, МНС. Здавалася б, ну куды магла дзецца дзяўчынка ў сваёй вёсцы, дзе ўсе ведаюць адзін аднаго?

15 студзеня прыйшла не менш жудасная навіна: супрацоўнікі міліцыі затрымалі 17-гадовага хлопца з гэтай жа вёскі, які нідзе не працаваў і не вучыўся і годам раней скончыў школу, у якую хадзіла Юля. Сучасная экспертыза паказала, што ён забойца 13-гадовай Юлі. Хлопец адразу прызнаўся ў злачынстве і паказаў, дзе закапана цела васьмікласніцы.

Пазней высветлілася, што ёсць саўдзельнік забойства. Таксама аднавясковец Юлі, навучэнец Столінскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя сельскагаспадарчай вытворчасці.

Лядзец быў у шоку. У школе расказвалі, што першы затрыманы жыў з мамай, інвалідам II групы.

— *Адзінае і позняе дзіця ў сям’і,* — расказвалі настаўнікі. — *Пакуль быў жывы бацька, сям’я была добрая, ён трымаў хлопца ў дысцыпліне, а потым... Што тычыцца другога... З забойцам ён сябраваў, хадзіў за ім па пятах. Яны заўсёды былі разам...*

Псіхолага-псіхіятрычная экспертыза прызнала, што хлопцы пры свядомасці. Забойства здзейснілі ў стане алкагольнага ап’янення.

У судзе яны падрабязна расказвалі, як затыкалі сваёй ахвяры рот і нос рукамі, ціснулі на горла, прыводзячы яе тым самым у непрытомны стан, а потым яшчэ і згвалтавалі. Сваю віну яны прызналі цалкам, прасілі прабачэння ў бацькоў школьніцы, у суда — строга не караць.

Судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда прызнала маладых людзей вінаватымі ў здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных некалькімі артыкуламі Крымінальнага кодэкса — забойства заведама непаўналетняй у групе; згвалтаванне заведама непаўналетняй, гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару ў дачыненні да непаўналетняй. Адзін з іх таксама прызнаны вінаватым у здзяйсненні двух крадзяжоў ровараў і замаху на крадзеж ровара.



Юля была старэйшай, у сям’і Ляшук яшчэ ёсць дачка.

Хлопец, які нідзе не працуе, асуджаны да 15 гадоў пазбаўлення волі, навучэнец прафесійнага ліцэя — да 11 гадоў пазбаўлення волі. Абодва — з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

Прысуд яшчэ не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

